Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 33 (4884) 19 жніўня 2016 г.



# Па руінах часу. Прывіды гісторыі


Уладзімір Тоўсцік. «У старым горадзе».

Замкі і палацы Беларусі, велічныя збудаванні ці амаль напаўзабытыя руіны вартыя таго, каб іх убачыць. Адчуць непаўторную энергетыку: таямніц каралёў і княгінь, ваенных пагадненняў і рамантычных гісторый. Там, у цёмных калідорах, на мініяцюрных лесвіцах, прызнаваліся ў каханні, за вялізнымі драўлянымі сталамі пры святле кандэлябраў раскошна балявалі, а ля масіўных каменных варот сустракалі ганцоў — веснікаў чарговых дзяржаўных змен.

Наша зямля, праз якую праходзіла мноства гандлёвых шляхоў, а значыць і войнаў, стала падмуркам абарончага дойлідства. А потым і пристанкам архітэктурных шэдэўраў. У краіне дзейнічала Дзяржаўная праграма «Замкі Беларусі», якая прадугледжвала рэстаўрацыю і аднаўленне 38 аб'ектаў, цяпер яна ўвайшла ў агульную праграму «Культура Беларусі».

Год назад выйшаў фотаальбом «Беларусь замкавая» на 500 старонках — вынік працы 40 фатографаў і даследчыкаў з усёй краіны. Многія замкі, напрыклад, у Крэве ці Навагрудку, літаральна падымаюцца з руін. Ці адаб'ецца ўсё гэта на абліччы нашых гісторыка-культурных скарбніц у найбліжэйшы час? Карціна Уладзіміра Тоўсціка «У старым горадзе», якая экспануецца ў Нацыянальным мастацкім музеі ў межах выстаўкі «Сучасная Беларусь вачыма мастакоў» (якая працуе апошнія дні), дакладна паказвае сувязь пакаленняў, мінулага і будучыні. Замкі, у якіх адлюстроўваецца гісторыя, патрэбны нам хаця б таму, што ў іх — энергетыка народа, адлюстраванне пэўных часоў яго жыцця. У гэтых сценах прымаліся важныя, у тым ліку палітычныя, рашэнні, пра якія варта ведаць, бо яны мянялі ход гісторыі. Дык чаму не ўзгадаць месцы, якія сталі героямі літаратурных твораў, крыніцамі натхнення для мастакоў і даследчыкаў? Месцы, дзе варта пабываць, каб пашырыць кругагляд і задумацца пра штосьці большае, чым толькі ўласнае ды асабістае.

**Марыя ВОЙЦІК**

Працяг тэмы на 4-й стар.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста РСФСР Мікалая Губенку з 75-годдзем. «Вас ведаюць і цэняць як адоранага і захопленага любімай справай рэжысёра тэатра і кіно, акцёра, сцэнарыста, дзяржаўнага і палітычнага дзеяча. Дзякуючы вашай творчай і жыццёвай энергіі, удумліваму стаўленню да работы, тэатр «Садружнасць акцёраў Таганкі» нязменна скарае публіку цікавымі праектамі і пастаноўкамі», — адзначыў Кіраўнік дзяржавы.

✔ Спецыялісты ЮНЕСКА праводзяць экспертызу беларускай традыцыі святкавання ў гонар абраза Маці Божай Будслаўскай, які прэтэндуе на ўключэнне ў Рэпрэзентатыўны спіс нематэрыяльнай культурнай спадчыны чалавецтва. Будслаўскі фэст знаходзіцца ў ліку прэтэндэнтаў на прадстаўніцтва ў сусветнай спадчыне. Адпаведнае заключэнне міжнародныя эксперты падрыхтуюць да лістапада.

✔ Беларускія населеныя пункты пазмагаюцца за званне «Горад культуры ў Год культуры». Паводле першага намесніка міністра культуры Беларусі Ірыны Дрыга, конкурс пад такой назвай стане своеасаблівым падвядзеннем вынікаў Года культуры. У рэгіёнах рэалізуецца шмат цікавых праектаў, ёсць нямала самабытных гарадоў, дзе праводзяцца яркія фестывалі, адраджаюцца народныя промыслы, дзейнічаюць экскурсійныя маршруты.

✔ Міністэрства культуры сумесна з Саюзам пісьменнікаў Беларусі і Беларускім саюзам кампазітараў аб'явілі конкурс на лепшую сучасную эстрадную песню пра Беларусь «Бела-тон». На конкурс могуць быць прадстаўлены песні на беларускай і рускай мовах. Заяўкі ад аўтараў прымаюцца з 1 верасня па 1 лістапада ў Маладзёжным тэатры эстрады.

✔ Падчас III Нацыянальнага форуму «Музеі Беларусі», які пройдзе ў Магілёве з 30 верасня па 2 кастрычніка, падвядуць вынікі конкурсу прафесійнага майстэрства і выберуць лепшыя музеі. Музеі і галерэі Беларусі могуць браць удзел у творчым спаборніцтве па пяці намінацыях: «За лепшае прадстаўленне музея на экспазіцыі форуму»; «За навацыі ў музейнай дзейнасці»; «За лепшы музейны праект»; «За лепшую культурна-адукацыйную праграму»; «За лепшае музейнае выданне».

✔ Нацыянальная прэмія ў галіне выяўленчага мастацтва ўпершыню будзе ўручана ў Беларусі ў 2017 годзе. Стаць удзельнікамі конкурсу могуць аўтары твораў выяўленчага мастацтва ў любых відах, жанрах і мастацкіх тэхніках і аўтары літаратурных твораў пра выяўленчае мастацтва. Адзін аўтар можа ўдзельнічаць у конкурсе толькі з адным творам і толькі ў адной намінацыі.

✔ Абласны пленэр па вырабе дэкаратыўных скульптур з каменя, прысвечаны 90-годдзю са дня нараджэння заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Барыса Аракчэева, праходзіць у г. Крупкі. Папулярызацыя беларускага мастацтва скульптуры, паляпшэнне архітэктурнага і эстэтычнага выгляду горада — асноўныя мэты пленэру.

✔ У Дрыбіне заўтра адбудзецца шосты рэгіянальны фестываль народнай творчасці, промыслаў і рамёстваў «Дрыбінскія таржкі». Дэлегацыі з Беларусі, Расіі і Украіны пасля сустрэчы на сімвалічнай мытні запросяць наведаць «Мастацкі вернісаж». Тут майстры дэкаратыўна-прыкладной творчасці прадставяць свае вырабы і прапануюць гасцям паўдзельнічаць у майстар-класах па вырабе сувеніраў з воўны, валёнак, керамікі і інш. А «Літаратурная гасцёўня» чакае ўдзельнікаў свята на паэтычных чытаннях, дзе будуць падведзены вынікі штогадовага конкурсу творчых работ «Славім Дрыбінскі наш край».

# Згадаць народнага паэта

### Супрацоўнікі Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа адзначылі дзень памяці Песняра

**Уявіць апошні дзень з жыцця пісьменніка можна было падчас міні-экскурсіі «Спяшаецца сэрца адстукаць свой пай…». Якуб Колас пакінуў свет 60 гадоў таму — 13 жніўня 1956 года.**

З раніцы пайшоў у ЦК КПБ з лістом наконт роднай мовы, але па недарэчным збегу акалічнасцей яго не прынялі. Пісьменнік вярнуўся дадому вельмі ўсхваляваны. Знакаміты, дагэтуль актуальны «Ліст аб стане беларускай мовы і далейшым развіцці культуры ў рэспубліцы» дзесяцігоддзі знаходзіўся пад грыфам «Совершенно секретно».

Адчыняюцца дзверы, гучыць радыё. Колас уваходзіць у пакой і яго выключае. Бярэ трубку тэлефона, набірае нейкі нумар, чуе кароткія гудкі. Выцягвае шуфляду стала, дастае паперу і пачынае пісаць. Чуем, як стукае сэрца паэта і тахкае гадзіннік...

Кадры дакументальнай кінахронікі засведчылі, як тысячы беларусаў развітваюцца з народным паэтам. Супрацоўнікі музея, паэты, пісьменнікі, грамадскія дзеячы таксама наведалі магілу Песняра на мінскіх Вайсковых могілках і ўзгадалі творцу чытаннем любімых вершаў.

**Янка НАТАВЕЦ**



Фота Кастуся Дробава.

*Урачыстае ўскладанне кветак да магілы Якуба Коласа.*

## У пісьменніцкім асяродку

# Расквечаныя чарадзействы



*Алена Прахіна з японскімі школьнікамі на імпрэзе.*

**Японскія школьнікі, якія ў 2011 годзе пацярпелі на радзіме ад аварыі на АЭС «Фукусіма», ужо не першы год адпачывалі ў Нацыянальным дзіцячым адукацыйна-аздараўленчым цэнтры «Зубронак». Падчас сёлетняга адпачынку яны завіталі ў сталіцу — на сустрэчу з педагагічным калектывам экалагічнай гімназіі № 19.**

Пасля экскурсіі па гімназіі госці напоўніцу паказалі свае таленты: дэманстравалі прыёмы ўсходніх адзінаборстваў, спявалі песні на роднай мове… А завяршылася гэтая святочная імпрэза падарункам, які японскім дзецям падрыхтавала айчынная дзіцячая пісьменніца Алена Прахіна. Аўтар прэзентавала сваю паэтычную кніжку-размалёўку «У краіне кветак і фей», выдадзеную паралельна на рускай, англійскай і японскай мовах. Над перакладам вершаў Алены Прахінай на японскую папрацавала кіраўнік інфацэнтра японскай культуры сталічнай дзіцячай бібліятэкі № 5 Масака Тацумі.

«Хто любіць прыроду і чарадзействы, той на ўсё жыццё застанецца юным у душы», — упэўнена Алена Прахіна. Асобнікі сваёй кніжкі творца падарыла юным гасцям сустрэчы. А яшчэ прапанавала некалькі дзіцячых песень уласнага сачынення, якія сама і выканала!

**Яна ЯВІЧ, фота аўтара**

## Новы фармат

# Пад адкрытым небам

### Гістарычны музей запрашае гасцей на «Кіно-Пікнік»

Кінафестывалі пад адкрытым небам апошнім часам для Мінска сталі традыцыйнымі. Гледачы з задавальненнем збіраюцца на адкрытых пляцоўках, каб у рамантычнай атмасферы паглядзець кінакласіку на ўсе часы альбо пазнаёміцца з фільмамі маладых незалежных кінарэжысёраў. Пакуль на Мінскім моры працягваецца праект «#morekino», Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь прапануе праграму «Кіно-Пікнік», у межах якой заўтра адбудзецца Міжнародны фестываль вулічнага кіно.

Фестываль бярэ пачатак з 2014 года. Яго галоўный мэтай з'яўляецца не проста культурна-забаўляльная праграма, а вывад «на вялікі экран» маладых рэжысёраў. У мінулым годзе фестываль прайшоў у 47 гарадах свету і вельмі зацікавіў аматараў кінематографа. Гледачы сачылі за сюжэтамі кінастужак на марскіх узбярэжжах, прыгожых тэрасах і нават на дахах шматпавярховых дамоў. Цяпер фестываль даехаў і да Беларусі. Гэты факт стаў своеасаблівай нагодай успомніць, што першы вулічны кінатэатр з'явіўся сто гадоў таму, і адсвяткаваць добрую падзею адмысловай праграмай.

У межах кінафестывалю гледачам прапануюць 15 кароткаметражных фільмаў з Расіі, Кітая, Грэцыі, Украіны, Германіі, ЗША і іншых краін-удзельніц. Беларускі фільм таксама будзе прадстаўлены на кінаарэне. Пакуль ні тэматыка, ні назва фільмаў невядомыя: напэўна, арганізатары праграмы «Кіно-Пікнік» рыхтуюць для гасцей сюрпрыз. На фестываль збяруцца рэжысёры кароткаметражных стужак, з якімі, магчыма, можна будзе абмеркаваць пытанні па сюжэце, канцэпцыі фільмаў. Але ж фэст не абмяжуецца толькі кінапраграмай: паміж праглядамі будуць праходзіць майстар-класы розных кінашкол і інтэрактыўныя праекты. Не застануцца без увагі і дзеці, для якіх падрыхтаваны цікавыя забавы. Таму бацькі, якія жадаюць прыйсці на фестываль, могуць не клапаціцца пра тое, з кім пакінуць дзіця.

За некалькі апошніх гадоў у Беларусі з'явілася шмат нестэрэатыпных праектаў, якія пакідаюць пазітыўныя ўражанні. Здаецца, што вулічныя кінафестывалі ўжо маглі надакучыць, але ж не — наш глядач па-ранейшаму бярэ мяккі плед, набывае квіток (калі ён прадугледжаны) і спяшаецца на сеанс. Чаму? Можа, таму, што такія фестывалі не прапагандуюць масавае кіно, якое сёння ідзе амаль ва ўсіх кінатэатрах, прываблівваюць якасцю ды сэнсам. А ўлічваючы колькасць зацікаўленых людзей, можна зрабіць выснову, што старанні арганізатараў свабодных праектаў на свежым паветры не праходзяць дарма.

**Вікторыя АСКЕРА**

*Стасункі*

# Праз еднасць культур

## «Маладосць» запрашае на завочны круглы стол

**Магчыма, не ўсе і не адразу згадаюць, што звязвае Рагачоў з беларускім пісьменствам. Адны махнуць рукой, іншыя пашукаюць у інтэрнэце ці распытаюць сяброў, якія могуць нешта ведаць. У выніку знойдзецца столькі фактаў... Чаго вартая сувязь горада з літаратурнай дзейнасцю Караткевіча, пра якую можна (і трэба) пісаць не радкамі, а кнігамі…**

Усе рыхтуюцца да свята. Яно ўжо за некалькі крокаў ад нас. Рыхтуецца і сам горад. Рыхтуюцца пісьменнікі, літаратурна-мастацкія выданні, сярод якіх і часопіс «Маладосць».

Канцэпцыя Дня беларускага пісьменства прадугледжвае паказ еднасці беларускага друкаванага слова з гісторыяй і культурай народа, адлюстраванне гістарычнага шляху пісьменства і друку. Дзесяць гадоў таму было вырашана, што без дэманстрацыі сувязей з іншымі народамі гэта амаль немагчыма. Каб Дзень беларускага пісьменства стаў сапраўдным адлюстраваннем сучаснага культурнага жыцця краін і народаў, была распрацавана ідэя міжнароднага круглага стала — мерапрыемства напярэдадні мерапрыемства як сведчання і еднасці народаў і культур. На сёлетні круглы стол збіраюцца прадстаўнікі Азербайджана, Чарнагорыі, Сербіі, Казахстана, Латвіі, Літвы, Расіі, Украіны, Славакіі, Турцыі, Кітая, Таджыкістана. Удзел у ім возьме і часопіс «Маладосць». У яго восьмым нумары — таксама круглы стол. Але ў сувязі з тым, што ўдзельнікі знаходзяцца побач толькі на старонках, можна назваць яго завочным.

Адкрываецца ён прадмовай дырэктара — галоўнага рэдактара Выдавецкага дома «Звязда» Алеся Карлюкевіча «Без сяброў мы ніхто!..». Алесь Мікалаевіч анансуе круглы стол, раскладвае па палічках яго праграму і мэты, знаёміць з некаторымі ўдзельнікамі.

Наступныя старонкі — пераклады. Паэзію Жэні Моры (Украіна) пераствaрыла па-беларуску Маргарыта Латышкевіч. Вершы Ігара Астапенкі (Украіна) і кранальныя вершаваныя перажыванні Чэмен Анабердыевай (Туркменістан) натхнілі на пераклады Марыю Кобец. Цэлыя старонкі радкоў пра каханне пяра Бахрома Рахметава (Таджыкістан) перакладзены Міколам Мятліцкім. Падборку вершаў маладых украінцаў «Прасякнутыя часам» па-беларуску прадставілі Алесь Емяльянаў-Шыловіч, Аліса Мініна і Адам Шостак. У гэтай нізцы — вершы Ані Невіркавец, Ганны Ютчанка, Катрусі Танчак, Вікторыі Дзікабраз, Міхайлы Жаржайлы. Госць нумара Руслан Гаравы — журналіст і кіраўнік праекта «Служба пошуку дзяцей», рэжысёр дакументальнага і караткаметражнага кіно, празаік і паэт — прадставіў «Маладосці» свае апавяданні ў перакладзе Мікіты Найдзёнава.

У штогадовай падборцы «Падляшша прэзентуе», якая існуе дзякуючы сяброўству «Маладосці» з гарадской публічнай бібліятэкай Бяла-Падляскі, чытач знойдзе творы польскіх паэтаў. Гжэгаж Шупілюк, Магдалена Назарчук, Людвік Філіп Чэх, Ганна Раманюк, Віктар Левандоўскі, Міхал Гжывашэўскі і Хенрык Козак перакладзены Алінай Агрэніч, Аксанай Ючкавіч, Ірынай Зімневай і Святланай Дзянісавай.

Яшчэ адна прадстаўніца польскай літаратуры — Ганна Аўгустыняк — госця нумара дзякуючы Кацярыне Канчэўскай. Чытач можа пазнаёміцца з творам пад назвай «Я кахала, калі яна адышла» — намінантам на ўзнагароду Gryfia-2014. Гэта ў першую чаргу незвычайная форма, якой самыя розныя крытыкі даюць самыя розныя назвы: «проза аб памiранні», «зборнік кароткіх празаічных форм», «дзённік жалобы», «зборнік трэнаў у прозе», «лямантацыйныя, выключна паэтычныя нататкі».

Разнастайнасць форм, тэм, ідэй, адценняў кожнага словазлучэння стане для чытачоў запрашэннем да сапраўднага круглага стала.

**Дзмітрый ШУЛЮК**

*Праекты*

# Урокі творчай школы

**Тых, хто хоча паспрабаваць сябе ў літаратуры, хто хоча ствараць вартыя мастацкія і паэтычныя творы, у сучасным грамадстве нямала. Але атрымліваецца не заўсёды, бо бракуе звычайнай творчай базы, ведаў і разумення працэсу.**



*Арганізатары школы сутворчасці: Бажэна Ганушкіна, Ірына Карнаухава, Таццяна Якаўлевіч.*

Таму сёлета ў сакавіку пры Мінскім абласным аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі была арганізавана школа для дзяцей «Са-Творчасць», якую наведваюць 48 вучняў з розных раёнаў Міншчыны.

Узроставы дыяпазон школы цікавы: каму — 11 гадоў, каму — 24! Па словах арганізатараў, пазітыўны момант. Калі дарослыя выказваюць цікавыя думкі, малыя адразу ж падхопліваюць. Сярод навучэнцаў ёсць і студэнты.

Ідэя арганізацыі школы належыць сябру Мінскага абласнога аддзялення СПБ, кіраўніку народнага клуба кампазітараў і паэтаў «Жывіца» Ірыне Карнаухавай.

— Як паказвае досвед працы ў народным клубе «Жывіца», моладзь, якая пачынае пісаць, не заўсёды падрыхтаваная. Многія натхняюцца творчасцю пасля сарака гадоў — у выніку ім не стае досведу, майстэрства, неабходных для працы са словам. Таму я і падумала: чаму б не арганізаваць пры абласным аддзяленні школу сутворчасці? З пятага-шостага класа будзем вучыць дзетак пісаць правільна, каб у іх заставалася жаданне займацца гэтай справай далей.

У «Са-Творчасць» прыязджаюць дзеці з Мінскай вобласці, бо ў іх менш магчымасцей займацца творчасцю, так бы мовіць, на прафесійным узроўні. Напачатку арганізатары хваляваліся, што вучні не зацікавяцца працэсам: разы два прыедуць — і ўсё. Але ж атрымалася наадварот: вучні зацікаўлены творчасцю, яны ставяцца да справы сур'ёзна, імкнуцца дапамагчы адно аднаму.

Разам з Ірынай Аляксандраўнай школу адкрывалі галоўны спецыяліст Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Таццяна Якаўлевіч і сябар Мінскага абласнога аддзялення СПБ Бажэна Ганушкіна. У кожнага з арганізатараў — свая справа: Ірына Карнаухава і Бажэна Ганушкіна займаюцца паэтычным блокам, Таццяна Якаўлевіч працуе з секцыяй прозы. Акрамя агульнай дзейнасці, арганізатараў аб'ядноўвае выкладчыцкі досвед, які вельмі дапамагае ў правядзенні заняткаў.

Школа для дзяцей «Са-Творчасць» падзяляецца на вочную і завочную. Завочная праходзіць падчас навучальнага года. Паколькі ў дзяцей заняткі, ім складана сярод тыдня прыязджаць у Мінск. Таму арганізатары прыдумалі цікавую тактыку: на працягу школьнага часу дзеці выконваюць заданні самі, а пасля высылаюць іх на электронны адрас. Калі ў вучняў пачынаюцца канікулы, то завочная школа мяняецца на вочную. Літаратары-пачаткоўцы прыязджаюць на заняткі ў Мінск і абмяркоўваюць зробленае за час завочнай школы. Заняткі па сістэме вочнай адукацыі насычаныя. Яны праходзяць па наступнай схеме: спачатку выкладчыкі даюць тэарэтычныя веды, а вучні потым спрабуюць прымяніць іх на практыцы і, асвойваючы школу пісьменнасці, спазнаюць родную мову. Для кожных заняткаў Бажэна Ганушкіна рыхтуе спецыфічныя словы, якія не заўсёды можна пачуць на вуліцы.

Працэс сістэмы заняткаў у вочнай школе карэспандэнту «ЛіМа» раскрыла Таццяна Якаўлевіч:

— Заняткі адбываюцца кожны тыдзень. Яны чаргуюцца: спачатку праводзім паэтычныя, на наступным тыдні — празаічныя. Так атрымліваецца таму, што да нас прыязджаюць універсальныя вучні, якія пішуць і вершы, і прозу. За лета мы правялі дзевяць заняткаў, пасля якіх ужо заўважны вынік: навучэнцы растуць у ведах ды імкнуцца працаваць са словам правільна. Абавязкова на кожных занятках разбіраем напісаныя імі творы. Калі напачатку юным творцам было складана, то сёння яны сур'ёзна аналізуюць кожны твор, адразу адчуваюць недахопы.

На некаторых занятках вучні пісалі казкі. Арганізатары выбіралі агульнавядомы твор, напрыклад, «Курачка Раба», і прапаноўвалі дзецям перайначыць тэкст у публіцыстычным, мастацкім і нават навуковым стылі. Ці давалі пачатак казкі, а навучэнцы павінны былі яе завяршыць. Даюць і цікавыя заданні па вершаскладанні, спрабуюць арыентаваць дзетак на асноўную паэтычную лінію, каб у вершах адчуваўся рытм.

У сістэме падрыхтоўкі паэтаў арганізатары больш за ўсё баяцца «рыфмаплётства». Ладзяцца для вучняў і сустрэчы з сучаснымі беларускімі творцамі. Сярод іх — Генадзь Аўласенка, Сяргей Клімковіч, Кацярына Хадасевіч-Лісавая…

Школа «Са-Творчасць» не толькі дапамагае юным аматарам літаратуры атрымліваць новыя веды, але і бярэ на сябе функцыю аб'яднання. Паколькі вучні жывуць у розных гарадах, яны камунікуюць праз сацыяльныя сеткі, дзе абмяркоўваюць свае тэксты, цікавяцца думкамі адно аднаго пра заняткі альбо разглядаючы падчас іх творы. Арганізатары школы «Са-Творчасць» спадзяюцца, што лепшыя творы вучняў пасля лета будуць апублікаваныя ў дзяржаўных выданнях. А гэта — своеасаблівая матывацыя не кідаць пачатае.

**Вікторыя АСКЕРА**

*Конкурсы*

# Міліцыя ў прозе і вершах

У творчых людзей з'явілася яшчэ адна магчымасць праявіць свае таленты. Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь абвясціла аб правядзенні новага творчага спаборніцтва — конкурсу на лепшы літаратурны, мастацкі і музычны твор пра органы ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь, прысвечаны 100-годдзю беларускай міліцыі.

Мэты конкурсу — прыцягненне ўвагі грамадскасці і творчай інтэлігенцыі да тэмы 100-годдзя міліцыі; адлюстраванне гісторыі, традыцый, прыкладаў гераізму супрацоўнікаў органаў унутраных спраў пры выкананні аператыўна-службовых задач; садзейнічанне ўвекавечанню памяці супрацоўнікаў, якія загінулі пры выкананні службовага або воінскага абавязку; прыцягненне ўвагі грамадскасці, прадстаўнікоў дзяржаўных органаў да пытанняў аховы грамадскага парадку, прафілактыкі, выяўлення, недапушчэння злачынстваў і адміністрацыйных правапарушэнняў ды інш.

Да ўдзелу ў конкурсе запрашаюцца творчыя саюзы, калектывы, рэдакцыі, а таксама асобныя аўтары.

Творчае спаборніцтва праводзіцца па намінацыях: «Лепшы малюнак "Міліцыя вачыма дзяцей"» (узрост канкурсантаў — да 15 гадоў), «Лепшы твор выяўленчага мастацтва, прысвечаны беларускай міліцыі», «Лепшая фотаработа пра беларускую міліцыю», «Лепшы плакат (білборд) пра беларускую міліцыю», «Лепшы літаратурна-мастацкі твор пра беларускую міліцыю ў прозе», «Лепшы паэтычны твор, прысвечаны беларускай міліцыі», «Лепшая песня пра беларускую міліцыю».

Матэрыялы з пазнакай «На конкурс да 100-годдзя беларускай міліцыі» разам з заяўкамі на ўдзел не пазней за 1 кастрычніка 2016 года накіроўваюцца на адрас: 220030, г. Мінск, вул. Гарадскі Вал, 6, Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь, галоўнае ўпраўленне ідэалагічнай работы. Узор заяўкі на ўдзел у конкурсе можна знайсці на афіцыйным сайце Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь.

**Яна ЯВІЧ**

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

# Па руінах часу. Прывіды гісторыі

**У аблiччы нашых замкаў відавочны ўплыў Еўропы, змешванне розных стыляў — ад класіцызму да готыкі. Падчас шматлікіх бітваў замкі былі абаронай ад знешніх пагроз, сімвалам мужнасці і адзінства, а потым сталі ператварацца яшчэ і ў творы архітэктурнага мастацтва вядомых у свеце дойлідаў. Паступова замкі станавіліся не толькі магутнымі крэпасцямі, але і вытанчанымі, раскошнымі будынкамі. Іх сцены прасякнутыя рамантыкай, адвагай, авеяныя паданнямі і легендамі. У сярэднія вякі Беларусь называлі краінай замкаў. А як жа інакш — больш за сотню на невялікай тэрыторыі! Цяпер — у межах 20. Таму і патрабуюць асаблівай аховы і ўвагі.**



*Маляўнічая веліч Нясвіжскага палаца.*

## РЭКАРДСМЕНЫ ПА ТАЯМНІЦАХ

Самае, бадай, багатае на легенды месца — Нясвіжскі замак, былая рэзідэнцыя некаранаваных кіраўнікоў Рэчы Паспалітай, аднаго з самых знатных родаў Вялікага Княства Літоўскага — Радзівілаў.

Старонкі з жыцця Нясвіжскага замка ў наш час раскрываў, напрыклад, Анатоль Бутэвіч. У яго кнізе сабраны паданні, цікавыя факты, чуткі і нават анекдоты. Замак — гэта чароўнасць італьянскага дойлідства ў спалучэнні з непрыступнасцю адной з самых магутных крэпасцей таго часу. Залатыя апосталы ў сутарэннях, таямнічыя хады, што праславіліся ледзь не як метро, прывід-прадказальнік Барбары Радзівіл, ахвяра свайго кахання і Боны Сфорцы, майстар катання на санках у солі сярод лета Пане Каханку... Культурным цэнтрам замак як быў, так і застаўся. Раней — бібліятэка на некалькі дзясяткаў тысяч тамоў, карцінная галерэя з палотнамі, як у музеі, зброя з розных краін, слуцкія паясы... Сёння на тэрыторыі палацава-паркавага ансамбля праходзяць оперныя вечары і балі, выстаўкі і тэатралізаваныя імпрэзы. Словам, гісторыя жыве.

Яшчэ адно містычнае месца непадалёк Нясвіжа — Мірскі замак (таму, як правіла, наведваюць адразу абодва замкі). Яшчэ адно дзецішча Радзівілаў і прыстанак самых неверагодных загадак мінулага. То паганская барановая галава ў сцяне, якая падтрымлівае фасады, то чалавек у доўгім цёмным плашчы і цыліндры, з-за якога можа і мову адняць. Ну і, вядома, бяскрыўдная Сонечка, ахвяра праклятага яблыневага саду, што быў ссечаны дзеля жывапіснага вадаёма, у якім потым (і па наш час) сталі тануць людзі... Народная памяць захоўвае шмат вобразаў, прычым самых разнастайных, прыцягваючы ўвагу да замкаў не адно стагоддзе. І як ты разбярэшся: што праўда, а што фантазія?

## НАТХНЕННЕ ДЛЯ КАРАТКЕВІЧА

Кажуць, што кожную поўнач на тэрыторыі замка шпацыруюць прывіды. Менавіта імі натхняўся Уладзімір Караткевіч, ствараючы свой знакаміты раман «Чорны замак Альшанскі». Просты хлопец Грымiслаў Валюжыныч закахаўся ў прыгажуню са шляхетнага роду Ганну-Гардзіславу Гальшанскую. Але раптам з'явіўся муж, які даведаўся пра здраду, і забіў палюбоўнікаў, а хлопца ўвогуле замураваў у сцяну.

Здагадацца лёгка — гаворка ідзе пра Гальшанскі палац, які праславіўся як адзін з самых злавесных. То Чорны Манах блукае ноччу па руінах і ствараe галюцынацыі, то Белая Панна выключае святло або штурхае выпадковых наведвальнікаў... Абодва былі замураваны ў сцяну жыўцом. Адзін з-за забароненага кахання, другая — дурных забабонаў уласнага мужа. Будаваўся велічны Гальшанскі замак як рэзідэнцыя Паўла Сапегі, выдатнага палітыка і падканцлера ВКЛ, натхнёнага галандскім дойлідствам чатыры стагоддзі таму. Сёння засталіся толькі руіны і рэшткі адной з вежаў. Гісторыя падказвае, што Гальшанскі замак — яшчэ і ўвасабленне жорсткасці лёсу і вандалізму. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай і эміграцыі гаспадароў будынак трапіў да таго, хто наўпрост падарваў яго, каб распрадаць на… цэглу. Пры Савецкай уладзе працягвалі разбіраць гісторыка-культурную каштоўнасць дзеля будаўніцтва чарговага дома культуры і кароўнікаў.

«Каменная кветка» з абарончымі равамі, мноствам прыгожых пакояў з фрэскамі і мастацкай лепкай, вітражамі і мазаікай... Што нам засталося ад яго? Неверагодная энергетыка ўспамінаў. Пабачыць гэтае месца трэба!



Фота з сайта cherenkevich.com.

*Косаўскі замак — вядзецца рэканструкцыя.*

## СТАРАЖЫТНАЯ СІЛА

Адзін з самых старадаўніх замкаў на нашай зямлі — Навагрудскі. Быў пабудаваны ў XII — XIII стагоддзях, калі праўленне горадам перайшло да сына караля Міндоўга, князя Войшалка. Постаці для гісторыі вельмі значныя, але замак з цягам часу напаткаў такі ж трагічны лёс, як і многія іншыя падобныя збудаванні на нашай зямлі: разбурэнні амаль ушчэнт падчас войнаў Рэчы Паспалітай з Расіяй, а потым і Паўночнай вайны, разбор па частках на брукаванку і гаспадарчыя пабудовы мясцовымі жыхарамі... А раней Навагрудскі замак быў ідэалам абарончага дойлідства: сем масіўных вежаў, умацаванні з усіх бакоў, некалькі глыбокіх і шырокіх равоў. Трымаўся Навагрудак дастойна перад тэўтонцамі і татарамі.

Цяпер вядзецца рэканструкцыя вежаў. Віды з Замкавай гары (дзяцінца) неверагодныя — Налібоцкая пушча на шматлікія кіламетры... Навагрудскі замак быў пабудаваны на адной з самых высокіх кропак сучаснай Беларусі — на вышыні 323 метры над узроўнем мора.

Дарэчы, дзякуючы яму, ёсць у нашай гісторыі і свая Жанна Д'Арк. Калі да сцен палаца падступілі рыцары Тэўтонскага ордэна, жонка князя Літавора Гражына, каб засцерагчы яго ад ганебнага перамір'я і выратаваць усё ВКЛ ад кровапралітнай вайны, пераапранулася ў княжацкія даспехі і вывела войска супраць ворагаў. Возера побач з замкам назвалі Літоўка ў гонар князёўны і яе адважнага ўчынку.

Яшчэ адзін цікавы факт: пры раскопках у Навагрудскім замку быў знойдзены Кубак Святой Ядвігі з вывай дрэва жыцця (які параўноўваюць з Чашай Грааля!), падораны Міндоўгу на яго каранацыі візантыйскім імператарам. Дарэчы, у Навагрудскім замку яна і праходзіла.



*Руіны Навагрудскага замка. Надзея на другое нараджэнне.*

## ПЕРАЛОМНЫ МОМАНТ

Тут была падпісана Крэўская унія, якая змяніла плынь гісторыі для многіх краін. Сёння ад замка таксама засталіся кавалкі. З XIV стагоддзя крэпасць нямала перажыла. Менавіта тут хаваўся ад Івана Грознага князь Андрэй Курбскі, а ў вежы па загадзе караля Ягайлы быў задушаны яго дзядзька Кейстут, адсюль жа бег і Вітаўт, пераапрануўшыся ў жаночую сукенку. Пра душы забойцаў, што блукаюць па начах у ваколіцах замка, дарэчы казаў Ігнат Ходзька ў апавяданні «Дух-абаронца». Чуткі сведчаць, што з прыходам цемры тут чутныя стук молатаў і ляск ланцугоў, а побач гуляе дама з сабачкам. Зразумела, прывід: у мінулым прыгажуня адмовіла аднаму з князёў і паплацілася за гэта жыццём.

Па расказах мясцовых жыхароў, у замку ёсць сакрэтны падземны ход, які вядзе да Вільні. Не дзіўна, бо пабудаваў палац сам вялікі князь літоўскі Гедымін. Крэўскі замак таксама мае патрэбу ў рэканструкцыі.

## НЕВЕРАГОДНЫ СІМВАЛІЗМ

Косаўскі замак, або палац Пуслоўскіх, быў закладзены ў сярэдзіне XIX стагоддзя па загадзе ваяводы Казіміра Пуслоўскага. Нягледзячы на маладосць збудавання, ад яго таксама засталіся толькі рэшткі сцен і калісьці магутных вежаў. А, між іншым, прынцып пабудовы замка быў вельмі незвычайны — кожная з 12 вежаў з'яўлялася сімвалам пэўнага месяца года. Архітэктары прыдумалі сэнс і колькасць пакояў. Кожны год два з паловай дня сонца поўнасцю асвятляла толькі адзін пакой, яго прыбіралі і праводзілі там свята. Кажуць, што па начах гаспадары выпускалі гуляць па калідорах ільва, каб слугі не займаліся крадзяжом. У адной з залаў была шкляная падлога, пад якой плавалі рыбкі, а лесвіца «іграла» мелодыю, калі па ёй падымалася дама ў доўгім строі… Зараз палац Пуслоўскіх знаходзіцца на рэстаўрацыі. На пад'ездзе да яго, дарэчы, стаіць капліца, складзеная са старажытных надмагільных камянёў. Побач — магіла Кастуся Каліноўскага, а за паркам ля руін замка — сапраўдная сядзіба Тадэвуша Касцюшкі. Месца па ўсіх параметрах — знакавае.

Час наведаць, а можа, кнігу напісаць?..

**Марыя ВОЙЦІК**

# Летапісец малога краю

## і паэзія неспакою

**Ён не заваёўвае чытача таннымі шэдэўрамі-аднадзёнкамі лёгкага жанру. Ён піша пра балючае, перажытае. Глыбока асабістае, значнае. Звяртаецца ў мінулае і не пакідае без увагі сучаснасць... Словам, піша сур'ёзныя рэчы, якія патрабуюць не менш сур'ёзнага асэнсавання чытачом.**



Віктар Гардзей.

Фота Кастуся Дробава.

### НА ДУМКУ КАЛЕГ

Створанае таленавітым чалавекам не сыходзіць у нябыт, як і слаўнае літаратурнае імя. Веру, што падобны лёс чакае творчасць паэта і празаіка Віктара Гардзея, які святкуе 70-годдзе.

Цалкам падзяляю думку Алеся Марціновіча, які адзначаў: «…Гэта не проста ўзроставы рубеж, а як бы тая кладка, па якой, ступіўшы ўпэўнена, што і зрабіў В. Гардзей, можна рухацца гэтаксама ўпэўнена і далей, каб напаткаць свой векавы юбілей».

Сярод вялікай кагорты літаратараў, выхадцаў з Ганцаўшчыны (а гэта Міхась Рудкоўскі, Васіль Праскураў, Іван Кірэйчык, Алесь Кажадуб, Іван Лагвіновіч, Уладзімір Марук, Алесь Каско ды іншыя), Віктар Гардзей, бадай, самы разнапланавы мастак слова. Гэта неадназначна адзначалі калегі пісьменніка і крытыкі Алесь Марціновіч, Павел Дзюбайла, Уладзімір Саламаха, Таццяна Шамякіна, Анатоль Трафімчык, Лідзія Савік, Уладзімір Калеснік... Трапна і вобразна ахарактарызаваў творчасць Віктара Гардзея празаік Уладзімір Рубанаў. «Творы В. Гардзея, — піша ён, — раскалыхваюць душу, агаляючы яе да нервовай чуйнасці. Адчуванне такое: чытаеш — і раптам тое, што мы ўкладваем у паняцце «душа», пачынае з кожным радком вібрыраваць больш і больш, даючы ўяўленню такі прастор (думкам тым больш)!.. Тады і бачыш Беларусь, падобную на «луг, што блакітна зацвіў», і разумееш «сівой салдаткі боль сусветны…» Вынесці чалавека катапультай вобраза з абманліва бяспечнай абалонкі спакою на арбіту трывогі за ўвесь свет, за зямлю — «гасцінны дом з дзвярыма насцеж» — хіба для паэзіі гэта мала? Не часта ў паэзіі сустрэнеш такі грамадзянскі тэмперамент, калі баліць душа. За ўсё».

### ЛІРЫКА БЕЗ САНТЫМЕНТАЎ

Што і казаць, Віктар Гардзей шмат зрабіў і працягвае рабіць для беларускай літаратуры сучаснага перыяду. Яго кнігі паэзіі «Касавіца», «Верасное палясоўе», «Засевак Радзімы», «Незабудкі азёр», «Узрушэнне», «Дзікая пчала», «Зялёныя дажджы», «Межань», «Трыадзінства», асобныя нізкі вершаў, надрукаваныя ў шматлікіх альманахах, калектыўных зборніках і часопісах, бясспрэчна, сведчаць пра высокі талент паэта. Высокі, так. Але пазбаўлены таннага пафасу, заклікавасці і лішняе драматызацыі. У яго вершах, лірычных і поўных роздуму, — спроба асэнсаваць і ўзважыць мінулае, празорліва зазірнуць у будучыню. Знітаваныя ў адзіны клубок вера, надзея і любоў складаюць непарушнае «трыадзінства» (згадаем аднайменны зборнік выбраных вершаў паэта). Гэта выразна прасочваецца ў класічным вершы Віктара Гардзея «Ёсць патрэба бачыць родны дом»:

*І заўсёды ў выраі няблізкім*
*Ёсць патрэба бачыць*
*родны дом:*
*Да зямлі сваёй хілюся нізка*
*Ластаўкай перад дажджом.*

Шчырыя словы прызнання Віктара Гардзея — не мястэчковы патрыятызм, як можа здацца на першы погляд. Яны маюць куды больш глыбокі і шырокі сэнс. Гэта патрэба чалавека бачыць усю Радзіму, Беларусь як дом, дзе мы жывём і будзем жыць, які працягваем будаваць і ўдасканальваць.

Сваю любоў да Бацькаўшчыны В. Гардзей не аддзяляе ад роднай мовы, бо цвёрда перакананы — без мовы няма нацыі. У многіх вершах ён непакоіцца, што матчына слова занядбанае.

> *Першая дзіцячая кніга «Чырвоны грабеньчык» вокамгненна разышлася з паліц кнігарняў. Такі ж лёс чакаў наступныя. Іх цяпер не знойдзеш у кнігарнях, рэдка пабачыш у бібліятэках. Шкада. Суцяшае думка, што выдаўцы аднойчы аб'яднаюць усе творы Віктара Гардзея для дзяцей пад адной вокладкай.*

Нельга не пагадзіцца з пісьменнікам, калі бярэш у рукі некаторыя рэспубліканскія газеты. Ад беларускага ў іх засталіся хіба назвы, астатняе — рускі тэкст. А колькі шыльдаў на англійскай мове, асабліва ў буйных гарадах, стракаціць на фасадах крамаў, рэстаранаў, кафэ, офісаў! Няўжо яны больш зразумелыя беларусу, чым назвы на роднай мове? Я зусім не супраць любой іншаземнай мовы, і ўсё ж «свая сарочка бліжэй да цела».

Асаблівую занепакоенасць выклікае той факт, што тым жа шляхам пайшлі і некаторыя раённыя газеты. Сёння сярод іх рэдка знойдзеш сапраўды беларускамоўную. Дзякуючы іх «старанням», людзі ў вёсках усё часцей размаўляюць на трасянцы. З вялікім шкадаваннем, з болем стоеным, але заўважным, згадвае пра тое В. Гардзей у зборніку «Межань», які ствараўся ім «на самай высокай ноце хвалявання і ўзрушэння чалавечага духу»:

*Ні дажджу, ні грошай. Дзьме*
*са шчылін.*
*Бабцы страшна і душа баліць.*
*Бабку слугі д'ябла падвучылі*
*Матчынае слова разлюбіць.*

Гэтак жа гаркотна гучаць заключныя радкі. Матчыну мову ён параўноўвае з пяшчотнай, пявуча-гаваркой птушкай роднага краю — кнігаўкай:

*Чую стогны ў цішыні*
*вясковай.*
*Бачу здані бедства*
*навакол.*
*Без крывінкі матчынае*
*слова:*
*Кнігаўку чужы*
*дзярэ арол…*

Дарэчы, прыродная вобразнасць — адна з характэрных рыс паэзіі Віктара Гардзея.

### МУДРЫ ВОРАН

Ён не толькі цудоўны лірык, але і не менш адметны дзіцячы паэт. Першая кніжка для малых чытачоў «Чырвоны грабеньчык», што пабачыла свет услед за паэтычным дэбютам «Касавіцай» у 1976 годзе, вокамгненна разышлася з паліц кнігарняў. Такі ж лёс чакаў кнігі «На арэхавай палянцы», «Коцікі на вярбе», «Мой тата — трактарыст», «Зай, які лічыў варон», «Зайкава балалайка», «У бары на зары», «Мудры воран». Іх цяпер не знойдзеш у кнігарнях, рэдка пабачыш і ў бібліятэках. Шкада. Суцяшае думка, што ў каго-небудзь з выдаўцоў рана ці позна народзіцца ідэя аб'яднаць усе гэтыя, без сумнення, цудоўныя творы пад адной вокладкай.

Дарэчы, у такой ацэнцы Віктара Гардзея як дзіцячага пісьменніка я не самотны. Яшчэ шаснаццаць гадоў таму падобную думку на старонках «Настаўніцкай газеты» выказаў літаратуразнаўца Васіль Саўчанка: «Перачыталася кніжка "Зайкава балалайка". І падумалася: а чаму б якой-небудзь бібліятэцы не ўзяцца, ды і не вылучыць яе на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь? Яна годная гэтай высокай узнагароды, бо сёння такія змястоўныя, непаўторныя выданні для дзяцей — рэдкасць».

Асобна хочацца сказаць пра апошняе выданне пісьменніка, якое пабачыла свет у 2008—2010 гадах чатырохтысячным тыражом (што вялікая рэдкасць па нашым часе), — «Малую дзіцячую Чырвоную кнігу». Гэта ўнікальны, маляўніча аформлены двухтомнік, свайго роду шэдэўр. Ён спалучае паэзію і прозу, цікавыя энцыклапедычныя звесткі і дзівосную назіральнасць, навукова-кампетэнтную дасведчанасць аўтара аб рэдкіх і знікаючых відах дзікіх жывёл, птушак, земнаводных (1-ы том) і раслінах, занесеных у Чырвоную кнігу Беларусі (2-і том), у даступнай форме апавядае пра іх. Але не толькі ў гэтым каштоўнасць кнігі. Найгалоўнейшая яе мэта — прывіць дзецям любоў да прыроды роднага краю. Што робіцца далікатна і ненавязліва.

### ЖЫВЫЯ ГЕРОІ

Віктар Гардзей не толькі цудоўны паэт, чый талент ацанілі і старэйшае, і маладое пакаленне беларусаў, але і прыкметны празаік. З вялікай прыхільнасцю сустрэлі знаўцы літаратуры яго кнігі прозы «Дом з блакітнымі аканіцамі», «Карані вечнага дрэва», «Уратуй ад нячыстага», трылогію «Аселіца ў басейне Чорнага мора», раман «Бедна басота» і інш.

Не стаўлю на мэце аналізаваць кожную кнігу Гардзея-празаіка. Скажу адно: сюжэты для твораў пісьменнік бярэ з уласнага жыцця і жыцця аднавяскоўцаў, блізкіх і знаёмых людзей, часта не мяняючы іх прозвішчы ці мянушкі, назвы мясцін і паселішчаў. Многія кругаўцы (аўтар родам з вёскі Малыя Круговічы) без асаблівай цяжкасці пазнаюць сябе ў асобах герояў кніг В. Гардзея. Мяне ж як чытача ўражвае памяць аўтара. Тое, што пабачыў ці пачуў у далёкім пасляваенным дзяцінстве, Віктар Гардзей згадвае сёння з такой падрабязнасцю і дакладнасцю, быццам гэта адбывалася не сем дзясяткаў гадоў назад, а ўчора. Ці не таму такімі жывымі, запамінальнымі выглядаюць яго персанажы, іх побыт, каларытная гаворка?..

> *Празаік валодае рэдкім талентам захапляць чытача, ствараць надзвычай рэалістычную атмасферу. Урэшце, ты становішся часткай твора, пачынаеш думаць на манер гардзееўскіх герояў. Проза Віктара Гардзея густа населеная, прычым як у малых апавядальных формах, так і ў аповесцях.*

Празаік валодае рэдкім талентам захапляць чытача, ствараць надзвычай рэалістычную атмасферу дзеі. Урэшце, ты становішся часткай твора, пачынаеш думаць на манер гардзееўскіх герояў. Варта заўважыць, што В. Гардзей не падпаў пад уплыў сучаснай празаічнай «моды», калі цягам многіх старонак аўтар засяроджвае ўвагу на адным героі. Проза Віктара Гардзея густа населеная, прычым як у малых апавядальных формах, так і ў аповесцях. У тым жа рамане «Бедна басота», які не такі і аб'ёмны, можна налічыць звыш пяцідзесяці дзеючых асоб, і ўсе персанажы займаюць у творы дакладна адведзенае месца, трапна ахарактарызаваны, таму набываюць мастацкую выразнасць.

В. Гардзей імкнецца быць максімальна рэалістычным. Прыхарошванні жыцця — не яго творчы метад. У гэтым плане некаторыя яго празаічныя творы па глыбіні паказу жыцця беларусаў-палешукоў можна смела параўноўваць з «Людзьмі на балоце» І. Мележа, з апавяданнямі і навеламі В. Шукшына пра родны яму Алтай, у некаторай ступені з «Новай зямлёй» Я. Коласа. Напісанае Гардзеем-празаікам глыбока ўзрушвае, кранае душу, робіцца блізкім. Аўтар раскрывае да найменшых дробязей разнастайныя плыні чалавечага жыцця і людскіх жаданняў.

### А Ў БУДУЧЫНІ?..

Усяго за час творчай дзейнасці Віктар Гардзей выдаў каля сарака кніг: паэзія, проза, зборнікі для дзяцей. Асобная графа — пераклады на беларускую мову: «Саламбо» Гюстава Флабэра, «Чорная страла» Роберта Стывенсана, «Шчаўкунчык, ці Мышыны кароль» Эрнста Т. А. Гофмана, кніга казак народаў Еўропы «Хрустальны калодзеж», шматлікія казкі братоў Грым... А колькі рукапісаў нарысаў, апавяданняў, эсэ, літаратурна-крытычных артыкулаў, успамінаў пра выбітных людзей Ганцаўшчыны яшчэ ляжаць некранутымі ў архівах пісьменніка?.. Спадзяюся, яны не застануцца без увагі, зацікаўленыя паспрыяюць іх публікацыі ў найбліжэйшы час. І, наогул, ці не падумаць кнігавыдаўцам пра шматтомнае выданне твораў Віктара Гардзея?

Шкада, што творчасць пісьменніка дагэтуль недастаткова вывучана і ацэнена нашымі літаратурнымі крытыкамі. Чаму? Найбольш грунтоўны адказ на гэтае пытанне, здаецца, дае берасцейскі літаратар Валерый Грышкавец: «Многім з сённяшніх крытыкаў-літаратуразнаўцаў Віктар Гардзей не па зубах: на першы погляд занадта просты, а капануць… Вось ужо сапраўды ўсё мудрае — простае». Выказванне катэгарычнае, але пагадзіцца ёсць з чым.

Трэба адзначыць яшчэ адну важную акалічнасць датычна асобы Віктара Гардзея — яго любяць і паважаюць землякі. Не буду шматслоўным, прыводзячы доказы на карысць гэтага выказвання. Толькі адзін факт: ужо 20 гадоў адна з вуліц у Малых Круговічах, на радзіме Віктара Гардзея, носіць яго імя!

…Семдзесят гадоў — шаноўны ўзрост, аднак не падстава супакойвацца і ставіць кропку ў канцы пісьма.

**Кастусь МОХАР**

# Нацыянальная літаратурная прэмія:

## знаёмімся з намінантамі

**Галоўная інтрыга на святе Дня беларускага пісьменства звязана з абвяшчэннем лаўрэатаў літаратурнай прэміі, якую, нагадаем, у 2015 годзе заснавалі Міністэрства інфармацыі і Саюз пісьменнікаў Беларусі. Цяпер яна носіць ганаровае званне «Нацыянальная», а папярэднікам яе лічыцца рэспубліканскі конкурс «Залаты Купідон». Першымі творчымі пераможцамі сталі Уладзімір Саламаха — у прозе, Тамара Краснова-Гусачэнка — у паэзіі, у дзіцячай літаратуры прызнанне атрымала Ганна Скаржынская-Савіцкая, а ў драматургіі і публіцыстыцы — Наталля Голубева і Міхаіл Шыманскі адпаведна. Адзначылі і крытыку: прэмію атрымаў Дзяніс Марціновіч за кнігу «Жанчыны ў жыцці Уладзіміра Караткевіча». Мінуў год, пытанне паўстала зноў: якія творы экспертнае журы прызнае найлепшымі? Каго абвесцяць новымі лаўрэатамі? Пакуль адказы не вядомыя, прапануем пазнаёміцца з намінантамі ў сферах паэзіі, прозы і дзіцячай літаратуры.**




## Час без мінулага і будучыні

Калі сузіраеш жыццё і застаешся гледачом у любых варунках, межы часу сціраюцца: успаміны паўстаюць толькі-толькі народжаным перажываннем, будучыня падаецца даўно пройдзенай, мёртвыя ідуць поплеч, а нашы штодзённыя — калегі, знаёмцы, мінакі — праплываюць ценямі. Што рабіць? Занатоўваць, спрабуючы спыніць імгненне, каб надаць яму хоць якую важкасць?..

**Аўтар.** Віктар Шніп — аўтар кніг паэзіі і прозы, але найперш ён усё ж паэт. Адзіны з беларусаў атрымаў літаратурную прэмію імя Уладзіміра Маякоўскага — за дэбютны зборнік «Гронкі святла». У друку мае амаль 40-гадовы творчы стаж. Выдаў 20 кніг (з іх дзве для дзяцей). Цікава, што на памежжы 1980-90-х гадоў пісаў тэксты для рок-гуртоў. Сёння займае пасаду галоўнага рэдактара ў выдавецтве «Мастацкая літаратура».




**Твор.** «Заўтра была адліга» адпачатку мае такое жанравае вызначэнне, як «дзённікавы раман паэта». З «дзённікавым» не паспрачаешся: запісы датаваныя, адлюстроўваюць паўсядзённасць аўтара, раз-пораз звяртаючыся да яго асабістых перажыванняў. Акрамя таго, усе яны папярэдне друкаваліся ў сацыяльнай сетцы, так што дзённік меў яшчэ і анлайн-фармат. Чаму ж «раман», калі і проста дзённіка было б дастаткова? Магчыма, такі жанр вызначаны дзеля грунтоўнасці, дзеля стварэння ўяўнай важкасці кнігі (у якой тая патрэбы не мае). Бо аўтар меў сумненні — ці варта выдаваць кнігай сваю фэйсбукаўскую стужку? З іншага боку, адказ на пытанне пра жанр дае змест дзённікаў. Вядома, гэта не раман у класічным значэнні, але асобныя рысы ёсць. Гэта працяглaсць дзеі, гэта вялікая колькасць персанажаў. Гэта некалькі ўзроўняў расповеду: ёсць побытавы, дзе проста фіксуецца падзея; складаней, калі прадмет размовы выступае як сімвал, і кажучы пра адно, аўтар іранічна намякае на іншае; адцягненыя развагі — пра жыццё, пра месца творцы ў ім, пра ролю мастацтва і інш. Ёсць нешта кшталту цэнтральных сюжэтных ліній, якія наўпрост звязаныя з пэўнымі тэмамі: тэма бацькоўскай і малой радзімы, падарожжы, праца і ўвогуле творчы асяродак, сям'я, сусед Дзіма — персанаж камічны, а ў нечым і трагедыйны.

Важная адметнасць кнігі — яе сарцавіна. У літаральным значэнні і ў лірычна-метафарычным: сэрцам гэтых дзённікаў з'яўляюцца вершы Віктара Шніпа, якія кажуць наўпрост пра тое, што рассыпана між радкоў дзённіка.

## Рамантыкі ў анфас і профіль

Творы пра выбітных асоб мінуўшчыны — бяспройгрышны варыянт. Тут і цікаўнасць чытача да знакамітасцей, якая адразу забяспечвае выдаўцу пэўны адсотак тыражу. І пэўнае маральнае задавальненне самога аўтара: маўляў, зрабіў унёсак у асветніцкую справу. А яшчэ — магчымасць выказаць сваё стаўленне да Асобы, сваё бачанне, даць волю фантазіі.

**Аўтар.** Адзін з самых запамінальных твораў пазакласнага чытання школьных гадоў — «Прынцэса тусоўкі». У 2012 годзе яе аўтар Яўген Хвалей атрымаў прэмію «Залаты Купідон» у намінацыі «Дзіцячая літаратура». Між тым пазіцыянаваць яго як аўтара літаратуры для падлеткаў нельга. Яўген Хвалей вядомы як паэт — тры кнігі вершаў, як публіцыст і ўкладальнік паэтычных зборнікаў. Гэтым разам увага зноў звернута на яго празаічны твор — раман-эсэ «Серабрыстыя таполі, або Летуценны Валенцій».

**Твор.** Летуценны Валенцій — гэта мастак XIX стагоддзя Валенцій Ваньковіч. Анатацыя ахарактарызавала яго як містычнага рамантыка, і Яўген Хвалей у рамане ўсяляк падтрымлівае гэтую рэпутацыю мастака. Валенцій замілавана ўглядаецца ў беларускія пейзажы, узрушана разважае пра былую веліч Вялікага Княства Літоўскага, паўстае юнаком, схільным да лёгкіх закаханасцей (але без донжуанскай падступнасці), — словам, так, летуценны. Але нельга сказаць, што раман прысвечаны толькі Ваньковічу. Ён хутчэй пра даўнюю эпоху рамантыкаў, шляхціцаў-ідэалістаў: тут і разбітыя сэрцы, і высокія памкненні, і супраціўленне царскаму рэжыму. Спадарожнічаюць Валенцію Ваньковічу на старонках рамана Адам Міцкевіч, Аляксандр Пушкін (цікава паслухаць яго беларускую мову), шматлікія прыгожыя дзяўчаты; з'яўляюцца таксама Напалеон Орда, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, нават Кастусь Каліноўскі, за якім пайшлі сыны Ваньковіча. «Серабрыстыя таполі» — вельмі інфарматыўны твор, прычым героі самі выкладваюць пра сябе каштоўную інфармацыю (што, быць можа, не такі ўжо і добры ход, калі мець на ўвазе натуральнасць аповеду?). І яшчэ адзін герой рамана — Час, які дае пра сябе ведаць праз шматлікія вобразы-сімвалы — ад гадзінніка ў доме Ваньковічаў да векавых таполяў над Ушаю.

**Наста ГРЫШЧУК**

## Усцешыць Коласа




**Аўтар.** Фёдар Гурыновіч больш за трыццаць гадоў працаваў у газеце «Калійшчык Салігорска». Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра (1997).

**Твор.** Паэма «Роднасць», як адмысловы каляндар сялянскай працы, складаецца з дванаццаці частак, названых адпаведна месяцам года.

Напэўна, «Роднасць» — адна з найбуйнейшых паэм у беларускай літаратуры, бо саступае «Новай зямлі» Якуба Коласа ўсяго на некалькі сотняў радкоў. 396 старонак і каля 11 тысяч радкоў — вельмі прыстойны памер для паэмы!

Якуб Колас, верагодна, чытаў бы твор Фёдара Гурыновіча з вялікім задавальненнем. Вялікдзень, пасеў бульбы, касавіца, паляванне, грыбы... Аўтар згадвае самыя каларытныя эпізоды вясковага жыцця, захоплена апісвае прыроду, узнаўляе ў памяці любыя абліччы бацькоў, бабулі, дзеда.

Адступленні ад галоўнай лініі таксама здараюцца. Так, твор пачынаецца размовай са снежнем, апошнім часам не вельмі шчодрым на снег, і апісаннем навагодняга застолля. Але ўзрушана пералічаныя масліны, ростбіф і зразы менш вабяць паэта, чым самагон ці парэзанае белымі клавішамі сала з крупчастай соллю, якім прысвечана па некалькі старонак.

«Роднасць» — аповед пра сялянскі побыт, святы і цікавыя здарэнні, абсалютна эпічны твор. Тут няма прэтэнзіі на высокую паэтычнасць, затое аўтар любіць пажартаваць і імкнецца як мага больш ярка ды дасціпна апісаць найлепшыя гады свайго жыцця. Паэма чытаецца лёгка і стварае пазітыўны настрой. Жыць на вёсцы зусім не сумна, калі маеш вялікую добрую сям'ю і ахвоту да працы! Многія беларусы, равеснікі Фёдара Гурыновіча, з задавальненнем згадалі б разам з ім час вясковага дзяцінства ды юнацтва, калі б, вядома, мелі большую ахвоту да чытання паэзіі...

## Калі паэт — шахматыст

**Аўтар.** Змітрок Марозаў, стваральнік першага ў беларускай літаратуры вянка вянкоў санетаў. Скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію, працаваў аграномам на Магілёўшчыне, у Міністэрстве сельскай гаспадаркі і харчавання, у Міністэрстве гандлю.

**Кніга.** «Мне Богам дадзена Радзіма» — зборнік, які змяшчае каля сямісот вершаў (пачынаючы з 1979 года), паэму, шэсць вянкоў санетаў, вянок вянкоў санетаў «Апакаліпсіс душы» (1990). Каб напісаць вянок вянкоў санетаў, трэба быць не толькі лірыкам, але і добрым шахматыстам: уяўляць складаную камбінацыю і вынік партыі на чатырнаццаць ды нават дзвесце дваццаць пяць крокаў наперад. Вянок вянкоў санетаў — гэта складаная сістэма, таму чытаць пятнаццаты санет у магістральным вянку немагчыма без захаплення.

Змітрок Марозаў — паэт заўсёды ўзрушаны і ўсхваляваны. Да якой бы тэмы ні звяртаўся творца (пакінутая вёска, незваротнае дзяцінства і юнацтва, каханне, праблемы сучаснага свету), ён абавязкова піша пра супярэчнасці, кантрасты, змены, часта згадвае і каменціруе словы-запаветы старэйшых людзей.

Калі паэт спрабуе акінуць позіркам эпоху, то заўвагі і высновы становяцца не вельмі арыгінальнымі. Больш імпануюць вершы пра блізкае — вёску, сям'ю, суседзяў, працу. Здавалася б, простыя радкі кранаюць тугой па вёсцы, дазваляюць уявіць самотную, ціхую Беларусь, дзе так мала вясёлых сустрэч, як толькі пакінеш горад: *«Зачараваная прырода. / Спавіты сном дрымотны сад... / Якая ціш наўкол і згода, / Як гэты сад мне сёння рад! / Перабудовы абмінулі /Забыты ўсімі хутарок... / І стогадовая бабуля / Пытаецца: "Ты чый, сынок?..."».*

## Такая крохкая радасць

**Аўтар.** Мар'ян Дукса скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, працаваў настаўнікам у Сольскай сярэдняй школе на Смаргоншчыне. Лаўрэат Літаратурнай прэміі Саюза пісьменнікаў Беларусі імя А. Куляшова (1990) за паэтычны зборнік «Заснежаныя ягады».

**Кніга.** Зборнік «Птушка вечнасці — душа» змяшчае каля 400 вершаў. Смутак па вёсцы, захопленасць мовай, прысяга на вернасць роднай зямлі — тры кіты, на якіх трымаецца творчасць трох намінантаў на Нацыянальную літаратурную прэмію. У зборніку Мар'яна Дуксы ў дадатак да галоўнага ёсць і іншыя істотныя тэмы. Лірычны герой часцей, чым у творах Фёдара Гурыновіча і Змітрака Марозава, адчувае сябе перад абліччам Бога, часцей згадвае расчараванні і мары, спрабуе зразумець свой настрой і з верша ў верш збіраецца перамагчы «неапраўданую паныласць» ды сустрэць «крохкую радасць». Аднак Мар'яну Дуксу не вельмі падабаецца сучаснасць: калі Змітрок Марозаў звычайна піша пра праблемы з засмучэннем і лёгкім дакорам, то ў Мар'яна Дуксы нямала сатырычных твораў і колкіх інвектыў.

Тэма паэта і паэзіі — яшчэ адна нагода для маркоты: *«Падчас такога ўздыбленага руху, / у грукатні раз'юшана-аўральнай / гучаць чамусьці вершы вельмі глуха... / Бо душыць гул іх трасы магістральнай».* Разам з тым для творцы вельмі значны свет мастацтва і кніг — адсюль шмат вершаў, прысвечаных класікам, шмат заўваг да маладых паэтаў. Мар'ян Дукса смялей за сваіх канкурэнтаў разважае над сацыякультурнымі праблемамі: згадаем вершы «У Горках Ленін дажывае дні...», «Пыліцца кніжная паліца...», «Рэліктавыя людзі»...

Мар'ян Дукса — паэт самотны і пранізлівы, і радасць ад знаёмства з яго зборнікам з'яўляецца дзякуючы лірычным вершам, дзе адчуваецца душэўнае супакаенне: *«Заўжды любіць свой лёс і час / і радасць гушкаць... / Нічым не лепшы я за вас, / лясныя птушкі. / Ад сэрца смутак адарву. / Свяці, цярпенне! / Я тым шчаслівы, што жыву, / як вы, імгненне».*

**Юлія ШПАКОВА**

Працяг тэмы ў наступных нумарах.

*Лёсы старадрукаў*

# Пазнакі на палях

**Як правіла, гэта нагода для абурэння ў адрас шараговага чытача публічнай бібліятэкі. Калі ж кніга налічвае некалькі стагоддзяў, бібліятэкары зусім інакш ставяцца да запісаў на старонках. Маргіналіі дапамагаюць узнавіць гісторыю кнігі, уявіць стаўленне чытачоў да напісанага. Наша чарговая кніжная гісторыя пачынаецца ў сярэдзіне XVI стагоддзя...**



У Цэнтральнай навуковай бібліятэцы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі захоўваецца сціплая «Кніжыца ў шасці раздзелах». У жыцці ёй не надта шанцавала. Частка старонак згубілася. Драўлянымі дошкамі вокладкі, абцягнутымі карычневай скурай, вячэралі пакаленні жукоў. Цісненне з кветкавым арнаментам амаль не відаць. Тое, што засталося, надзейна ахоўваюць два крутарогія бараны — старажытныя латунныя зашпількі. Кніжцы больш за 400 гадоў, а гісторыя, якую яна расказвае, доўжыцца два тысячагоддзі.

Яе шлях у Мінск быў доўгі. Надрукаваная ва ўкраінскім Астрозе ў канцы XVI стагоддзя, праз некалькі дзесяцігоддзяў «Кніжыца» трапіла ў Масковію. У XIX стагоддзі невядомы бібліяфіл перадаў яе з усёй сваёй калекцыяй у Маскоўскую духоўную акадэмію. Пасля рэвалюцыі кніжка трапіла ў Дзяржаўную бібліятэку СССР (цяпер гэта Расійская дзяржаўная бібліятэка). А 50 гадоў таму маскоўская бібліятэка падзялілася з Мінскам выданнямі, якія мела ў вялікай колькасці. Так асобнік «Кніжыцы» апынуўся ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы НАН Беларусі.

Аўтар выдання Васіль Андрэевіч Малюшыцкі нарадзіўся ў сярэдзіне XVI ст. у шляхецкай сям'і. Але дзе яго радзіма — невядома: можа, на Валыні, а магчыма, што і ў Беларусі, у Малюшычах на Карэлiччыне, адкуль паходзіць род Малюшыцкіх.

Васіль Малюшыцкі ўсё жыццё пражыў у горадзе Суражы на Валыні, таму падпісваўся як Васіль Суражскі. Ён быў блізкі да «караля Русі», уплывовага праваслаўнага магната Рэчы Паспалітай Канстанціна Астрожскага. Працаваў астрожскім пісарам, суражскім старастам. Васіль Суражскі-Малюшыцкі кіраваў і знакамітай астрожскай друкарняй, заснаванай Іванам Фёдаравым. Тут ён выдаў два ўласныя творы, адзін з якіх — палемічная «Кніжыца ў шасці раздзелах» (другая назва выдання — «О единой истинной православной вере»). Гэта своеасаблівая энцыклапедыя па галоўных багаслоўскіх пытаннях. Кожны праваслаўны, які рыхтаваўся да рэлігійнай перапалкі ў ліставанні ці да публічнага дыспуту з католікамі або пратэстантамі (часцей, канечне, з першымі), мог звярнуцца ў пошуку аргументаў да аднаго з шасці раздзелаў «Кніжыцы».

Асобнік, які воляй лёсу трапіў у Акадэмічную бібліятэку, захаваў толькі трэцюю частку тэксту, дзе найбольшая ўвага ўдзелена гісторыі царквы. Васіль Суражскі прадставіў яе як гісторыю памылак і злачынстваў, здзейсненых рымскімі папамі супраць праваслаўя і дзеля ўмацавання сваёй улады. Некалькі старонак прысвечана і папу Фармозу. Аўтар піша, нібы папа падмануў сваіх калег, усходніх патрыярхаў, прыкінуўся іх аднадумцам, і «благочестивіи ж людіе нарекошя его (Фармоза. — **аўт.**) папою, неведуще в немъ ереси. Он же по обычаю прежде бывшихъ папъ написа рукою своею истинно исповеданїе православныя веры лестію, и посла к четырем патріархом. Егда же пріать престол, нача учити ересемъ люди Божія».

Насамрэч папа Фармоз нарадзіўся амаль за 250 гадоў да расколу хрысціянскай царквы. Але праз восем месяцаў пасля смерці святара над яго целам быў здзейснены жахлівы «Трупны сінод». Таму папа Фармоз з яго страшнай і нібы павучальнай пасмяротнай гісторыяй стаў у праваслаўнай традыцыі зручным ды красамоўным сімвалам злачынства, здрады і адступніцтва ад сапраўднай веры.

Урывак пра папу закрануў аднаго з першых чытачоў «Кніжыцы». Насупраць слоў пра «падманшчыка» Фармоза чытач пракаменціраваў: «Як и митрополит тепершними проклятыи Михаил». Раз'юшаны чытач меў на ўвазе кіеўскага мітрапаліта Міхаіла Рагозу (1540—1599). Такое параўнанне падалося яму трапным: як Фармоз у яго разуменні здрадзіў грэчаскім патрыярхам, так і Міхаіл Рагоза здрадзіў Праваслаўнай царкве, заключыўшы унію з каталіцкай.

Сродкі і спосабы, якімі ўніяты схілялі праваслаўных да прыняцця «новай веры», адварочвалі ад высакароднай ідэі экуменізму не толькі скептыкаў, але і нават прыхільнікаў. Леў Сапега пісаў уніяцкаму епіскапу Іасафату Кунцэвічу: «Я сам прыкладаў намаганні па ўвядзенні уніі, і спыніць яе ўвядзенне было б справай неразумнай. Аднак ніколі мне не прыходзіла думка, каб Ваша міласць вырашыла прыводзіць людзей да яе гэткімі гвалтоўнымі спосабамі... Трэба выкарыстоўваць спрыяльныя абставіны, але нельга паддавацца неразумнаму захапленню, асабліва калі справа ідзе пра веравызнанне...»

Тое, што невядомы чытач «Кніжыцы» называе мітрапаліта «праклятым», указвае на час чытання — пасля Брэсцкага сабора 1596 года, калі кіеўскі мітрапаліт падтрымаў аб'яднанне праваслаўнай і каталіцкай цэркваў. У той жа час мітрапаліт названы «тепершним», то бок запіс з'явіўся да смерці Міхаіла Рагозы летам 1599 года.

Гэтая маргіналія — запіс на палях — не толькі вельмі цікавая ў гістарычным кантэксце, але таксама дазваляе скараціць дыяпазон магчымых дат выдання «Кніжыцы ў шасці раздзелах». Пакуль пра час выдання вядома толькі, што кніга выйшла з друку пасля 1588 года (у гэты год Васіль Малюшыцкі стварыў рукапісны тэкст) і да 1612 года, калі спынілася дзейнасць друкарні ў Астрозе. Маргіналія дазваляе абмежаваць час выдання 1599 годам, калі на змену Міхаілу Рагозу, «мітрапаліту цяперашняму», прыйшоў новы мітрапаліт — Іпацій Пацей.

«Кніжыца» напісана грунтоўна, як сур'ёзная гістарычная праца — з мноствам спасылак і цытат. Аднак чытаць яе складана. Дасціпна заўважыў Іван Франко: «Суражскі — пісьменнік сумленны, працавіты, але вельмі цяжкі і амаль пазбаўлены літаратурнага таленту. Не ведаю, ці ёсць у нашай палемічнай літаратуры таго часу яшчэ твор, чытанне якога так мучыла б і стамляла. І не з прычыны сухога стылю, але з прычыны нейкай асаблівай цемнаты і глыбіні».

Сапраўды, чытаць Суражскага цяжка і з этычных меркаванняў. Цяпер Васіля Андрэевіча з яго нападкамі на каталіцтва і пратэстанцтва дакладна абвінавацілі б у распальванні міжрэлігійнай варожасці. Ды не забывайма, што ў XVI стагоддзі этыкай міжрэлігійных зносін займаліся хіба асобныя постаці, найбольш дасведчаныя і дальнабачныя, такія як Леў Сапега. А большасць шукала любой падтрымкі для сваёй веры — ці то моцных заступнікаў, ці то гістарычных сведчанняў пра сваю праўду, сваю праўду.

Акрамя чытача, які вышукваў у кнізе кампраметуючыя для каталіцтва гісторыі і пазначаў іх сваімі заўвагамі, да «Кніжыцы» звярталіся і іншыя людзі. Па іх запісах відаць, што гэта былі чытачы з Расіі. Яшчэ ў XVII стагоддзі права ўласнасці на кнігу зацвердзіў падзячы Андрыян Іваноў. «Книга глаголемая о старомъ Риме», «книга подячего Андрияна Иванова», — запісаў ён на палях. У кнізе адзначыўся і нейкі Пракоп, які запісаў на вольным месцы «Прокопия Прокопия». Незвычайна, што сярод іншых запісаў сустракаюцца жаночыя імёны: «Антонида», «Аминия». Можа, гэта той рэдкі выпадак, калі кніжныя старонкі захавалі сляды не толькі чытачоў, але і чытачак?.. Пра колькасць, густы, магчымасці чытачак у Расіі XVI—XVII стагоддзяў амаль нічога не вядома. І асобнік «Кніжыцы ў шасці раздзелах» дапаможа даследчыкам, якія займаюцца гэтай праблемай.

**Паліна СКУРКО**

*Ініцыятыва*

# Фіялетавы колер буккросінгу

**Звычайным буккросінгам у Беларусі ўжо нікога не здзівіш. Аматары друкаванага слова часам не толькі купляюць новую літаратуру, але і пазычаюць кнігі. Палічкі з кнігамі-падарожніцамі даўно раскіданы па гарадскіх установах — шукай, што спадабаецца, ды чытай.**

Цяпер па ўсім свеце з'яўляецца новы, больш маштабны рух, скіраваны на стварэнне вулічных бібліятэк. Дзякуючы групе ініцыятыўных студэнтаў, ён не абміне і нашу краіну.

Сацыяльны праект «Беларусь чытае!» можа даць беларусам тое, чаго яшчэ не было, — буккросінг па-беларуску. Стваральнікі праекта плануюць паставіць побач з выхадамі са станцый метро своеасаблівыя фіялетавыя будкі, дзе змесцяць кнігі. Акрамя прыкметных мініяцюрных памяшканняў, плануецца спецыяльны дадатак для мабільных тэлефонаў, які значна спросціць сістэму пошуку кніг для чытання: дадатак адлюструе спіс літаратуры ў кожнай будцы, зафіксуе ўсе перамяшчэнні кніг. Трапіць унутр можна будзе толькі тым, хто ведае код доступу з мабільнага дадатку, што гарантуе бяспеку прадастаўленай літаратуры. У планы «Беларусь чытае!» уваходзіць папулярызацыя маладых беларускіх аўтараў праз публікацыі ў сацыяльных сетках праекта і выступленні падчас літаратурных вечарын.

Праект «Беларусь чытае!» быў створаны для ўдзелу ў Міжнародным адкрытым студэнцкім камунікацыйным форуме «PR-кветка», дзе заняў трэцяе месца. Не ўсе ідэі, прадстаўленыя журы і гледачам на «PR-кветцы», даходзяць да сапраўднай рэалізацыі, але студэнткі журфака так захапіліся гэтай справай, што не змаглі яе пакінуць. Яны знайшлі аднадумцаў з іншых факультэтаў і універсітэтаў і разам пачалі прасоўваць «Беларусь чытае!» на прасторах Мінска. Каб людзі звярнулі ўвагу на стан беларускага буккросінгу, аўтары праекта арганізоўваюць цікавыя мерапрыемствы, праводзяць літаратурныя сустрэчы з пісьменнікамі і паэтамі нашай краіны, якія можа наведаць любы жадаючы. Так, першая сустрэча з беларускім пісьменнікам Альгердам Бахарэвічам адбылася ў ліпені ў адкрытай прасторы «Верх». Творца распавёў пра сваю новую кнігу «Белая муха, забойца мужчын», адказаў на пытанні аўдыторыі.

— Увогуле, ідэі ў нашай крэатыўнай каманды нараджаюцца хутка, таму за будучымі мерапрыемствамі зручней сачыць у сацыяльных сетках праекта, — кажа адна са стваральніц Лізавета Шалай. — Магу па сакрэце сказаць, што «Беларусь чытае!» плануе ў хуткім часе правесці забаўляльна-адукацыйны літаратурны фэст. Усе атрыманыя сродкі будуць накіраваны на фінансаванне нашай задумы.

Для прыцягнення сродкаў «Беларусь чытае!» зарэгістравана на сайце краўдфандынгавай платформы «Мае Сэнс».

— Мы выкарыстоўваем вельмі цікавы інструмент платформы — так званы аўкцыён сустрэч, — тлумачаць арганізатары праекта. — Далучыцца да аўкцыёну лёгка: трэба сфатаграфавацца са сваёй любімай кнігай, напісаць пра яе некалькі слоў, затым стварыць сустрэчу на платформе «Мае Сэнс» у падтрымку праекта «Беларусь чытае!» і кінуць выклік сваім сябрам. Ідэя «Challenge: Беларусь чытае!» заключаецца ў тым, што кожны можа абмеркаваць з пераможцам сустрэчы ўпадабаную кнігу. Усе выручаныя сродкі ідуць на збудаванне кабінак.

Зараз «Беларусь чытае!» збірае сродкі для рэалізацыі. Таксама вядуцца перамовы: для будаўніцтва вулічных бібліятэчак трэба прыйсці да згоды з Мінскім гарадскім выканаўчым камітэтам, даказаць бяспечнасць будынкаў у МНС, а таксама абмеркаваць з Міністэрствам архітэктуры і будаўніцтва спалучэнне новых кніжных кабінак з архітэктурным ансамблем Мінска. Калі патрэбная сума будзе пералічана на рахунак арганізацыі, беларускаму твару буккросінгу — быць!

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**



Глеб ГАНЧАРОЎ

## Урывак з мемуараў

… На Ўшэсце чатырнаццатага года
Сабраліся мы класам на пікнік.
Бацькі — на дачах. З гэтае нагоды
Ва ўсіх адразу смелы план узнік:
Паспрабаваць паклікаць далікатна
На наш велікасвецкі мацыён
Недасягальных дзеўчанят з прыватнай
Гімназіі мадам дэ Рэвіён.

На ўзлеску губернатарскага сквера,
Там, дзе грымеў ды бразгаў скетынг-рынг,
Мы і расклалі пернікі, эклеры,
Ірыс, клубніцы, даўкі размарын.
А каб зусім аслупянелі дамы
І не скупіліся на пахвалы,
Дык Яшка Фінк сцягнуў
з бацькоўскай крамы
Бурштынавую пляшку марсалы.

Васіль Скварцоў дурыўся ў ролі клоўна,
Хваліўся будучыняй цыркавой.
(Праз тры гады на хутары пад Коўна
Ён быў забіты п'янай казачнёй.)
Хіхікала з яголых жартаў Ядзя,
Што панна закаханаму пажу.
(Была замучаная ў Петраградзе
Пасля эсэраўскага мяцяжу.)

Марк Кавалёў — аматар сімвалістаў —
Чытаў Бальмонта Аляўціне К.
Яголы бацька — паліцэйскі прыстаў,
Яе — друкар кадэцкага лістка.
(Загінулі ўдваіх пры артабстрэле,
Калі абаранялі Перакоп,
Іх векавечнай шлюбнаю пасцеллю
Стаў нейкі паўзасыпаны акоп.)

…Ледзь убаку, пад пышным лісцем клёна,
Такі ж буйны, парывісты, як шквал,
Алоіз Берг пяшчотна, палка, плённа
Рахіль Багрову ў губы цалаваў.
Хвастом зміяным завіваўся шэраг
Жадаючых прайсці на скетынг-рынг,
І на Рахіль глядзеў з тугой у шэрых
Сваіх вачах біблейскіх Якаў Фінк….

Увечары заціхнуў шум бясконцы,
Якім штодня хваліўся скетынг-рынг.
За гарызонт закочвалася сонца,
Падобнае на спелы мандарын.
І не было ні смутку, ні адчаю,
Але не пакідала пачуццё,
Што за вуглом з сякераю чакае
Шчаслівае і доўгае жыццё…

## Енк Лазара

Ты ўваскрэсіў мяне чаму,
Ты ўваскрэсіў мяне навошта,
Нібы адвёрткай па бяльму
Ўшрубаваў навечна ў вочы?

Я аднойчы сышоў у нябыт,
Я аднойчы сканаў знянацку
Не затым, каб намер твой быў
Уваскрэсіць па-заліхвацку.

Бо раней у маім жыцці
Рунь буяла ды зеленела,
Пачынала штодня цвісці,
А цяпер усё мутна, бела…

Ты растаў, як да ног тваіх
Мае сёстры папрыпадалі,
Акрапіўшы крысо тунік,
Цалавалі рамень сандаліі.

Што ты возьмеш з бязглуздых баб,
Акрамя ўсхваляванай хрыі —
Толькі Марфін тупы нахрап
Ды пранізлівы плач Марыі!

Я вяртання не заклінаў —
Я да бога ляцеў, як зорка,
Бо нарэшце свой боль прагнаў!
А цяпер усё зябка, золка…

Ты не думаў аб тым, што мне
Давядзецца ізноў на ложку
Загінаца ў гнілым радне
Сапраўды, а не панарошку?

Дзе ж наперад адчуць усё,
Калі тоўпіцца ў рызах шэрых,
Нібы трэфнае парасё,
Зацікаўленых вучняў шэраг!

Я таксама ў юнацкі час
Быў падобны на шалапута
Ў чарадзе маладых пралаз,
А цяпер усё страшна, люта…

Чараўніцтвам сваім ліхім
Ты прызначыў мне лёс ахвяры,
І бязлітасны серафім
Б'е маланкай мяне з-за хмары.

Паспрабуй ад сваіх даброт
У бясконцае кругаверці
Адыходзіць у смерць штогод
Ды ізноў уцякаць ад смерці!

Ты маліцца тады пачнеш,
Сам сябе аддаваць пакорна,
Каб зніштожыць такі правеж…
Да чаго ж мне, Ісусе, чорна!

## Гомельская элегія князю Паскевічу

Белагаловы вал зімы
Растаў і плынню вадаспада
Імклíва рухнуў, як прынада
Для крумкачыных гурмы.
І, падавалася, эспада
Працяла Сожа бег прамы.

Ваўчком круціўся жвавы вір,
Што клавікордавае рондa;
Трымала круглая ратонда
Антычных ордэраў клавір,
І хвой карункавая блонда
Махрыста акрывала жвір.

Правінцыяльная нуда
Ў палон штодзённае руціны
Вяла зарослыя курціны,
Дзе курасьлеп, і лебяда,
І бальзаміны — зрок рысіны
Каля фамільнага гнязда.

Глухое, гразкае сяло,
Якое шчодрасцю манаршай
Дзеля спачыну пасля маршаў
Схавана пад тваё крыло,
Яснавяльможны пан фельдмаршал,
Цябе аблытала ў сіло.

Бо нездарма з усіх баёў
Пасля калецтваў і кантузій
У гэты горад без ілюзій
Твой шлях непераможны вёў
Пад успаўленняў чортаў тузін,
Пад спеў імперскіх салаўёў.

Абвіўшы стромкі кругагор,
У аканіцы вецер клацаў,
Як капыты на бруку пляца;
Звінеў страмёнамі віхор
Аб вежу княскага палаца,
Аб Петрапаўлаўскі сабор.

Ён так жа церабіў траву,
Калі пад магілёўскім мурам
Ты інаходніцкім алюрам
Схапіўся з корпусам Даву
На злосць разважлівым аўгурам,
Спыніўшы націск на Маскву.

Учынкаў адчувальны плён
Спрыяў тваёй ваярскай долі:
Падзякаваў Барклай дэ Толі,
Схіліўся князь Баграціён,
У асляпляльным арэоле
Пабляк уперш Напалеон.

Твой вышываны эпалет
Картушам зробленага фрыза
Лунаў на ростанях Тэбрыза,
Біў Эрыванскі віалет,
І страціў слодыч парадыза
Асманскі горад Баязэт.

Ці лішак палкаводчай славы
Душыў, калі твае палкі
Па руху ўпэўненай рукі
Ўвайшлі на вуліцы Варшавы,
Дзе разгуляліся клінкі
Захопленай казацкай лавы?

Альбо цябе венгерскі бунт,
Які быў варты процьмы оргій,
Што распачаў драўнік Гёргей,
Стрымаў на крышачку секунд?
О, не! Бліснэў святы Георгій
На ордэнах тваіх ва фрунт!

Фельдмаршал, спі! І гэты сон
Зусім не той, што ў цёплай спальні, —
Твой прах пад спудам пахавальні
Ляжыць, захутаны ў вісон,
І толькі дрэвы разбітальна
Ў страі стаяць, як гарнізон.

Твая схуднелая рука
Пад шклом музея бранзавее —
Яна не вырве, быццам фея,
З імперскіх хронік ні радка!
Да Ганібала і Пампея
Цячэ імклівая рака…



Мікола АДАМ

## Лісты да С.

### 1

Дабранач. Позна ўжо. Зіма
Не сёння-заўтра ўсіх абдыме,
І я у цыгарэтным дыме
Хавацца буду. Ад віна,
Якое я вазьму з сабою,
Не закружыцца галава,
Таму што гэтая зіма
Нас паяднала. І што я
Адзін раблю сярод начы,
Калі павінен быць з табою,
Як у шматмесячным запоі…
Дабранач. Ужо позна. Спі.

### 2

Дзень добры. Сонца ўжо ў зеніце,
Я ўсё яшчэ ляжу… Настрой
Хваробай сапсаваны мой,
Нібы расейскі горад Піцер.
Той праменад у снегапад
Даецца мне цяпер у знакі,
Ды што цяпер яго аплакваць,
Калі ён фатум альбо кат?..
А ты… што робіш зараз ты?..
Трызненнем мой забіты розум,
Як шыбы лютаўскім марозам,
Ад нематы да хрыпаты.
Сядзіш, відаць, ты на канапе
З маёю кнігай у руках,
Але цябе яе чытаць
Прымусіў малады твой тата.
І ты праз слёзы на губах,
Уголас, беларускай мовай,
Нібы язычніцкай замовай,
Прэч ад мяне свой гоніш страх…
Мая хвароба вочы засціць,
Правальваюся я ў туман,
Нібы ў балоцістую твань,
Не чуючы, хто кажа «здрасьце».

### 3

Дзень добры зноў. Кудысь знікае
Блакіт нябёсаў за акном,
Нібы карычневым крылом
Ноч-крумкачыха засланяе.
Аднак да ночы — яшчэ час,
Які не размяшаеш кнігай,
Тым больш што хуткая адліга
Не хутка шчэ накрые нас.
І што рабіць? Сусед заняты:
З мабільным цешкаецца. Ён
Чакае, калі ж паштальён
Дашле у рэшце рэшт сім-карту.
І ён не курыць. Мне курыць
Таксама нешта неахвота,
Вось толькі б адшукаць работу,
Каб у тэатр цябе звадзіць.
Ці ты была калі ў тэатры?
«Кіном» не насалодзіш густ,
А развярэдзіш, як той «куст»,
Што я прайграў з адчаю ў карты.
Ды што тэатр? Само жыццё
Такое, што ні ўстаць, ні сесці!..
Ці згодзішся ты стаць нявестай,
Калі я папрашу, маё?..

### 4

Вечарэе. Па чарзе, як па загадзе, вокны
Загарацца, нібы вочы, пачалі ў дамах.
І аднекуль узнікае страх
І, як ртуць, гарэзліва падскоквае.
Вечарэе. Я табе патэлефанаваць
Не змагу, ачмураны сябрамі,
У пракураным і танным бары,
Стомлены заўсёды наліваць;
Стомлены размовамі пра дзевак,
Колькі ім было, куды і як…
І пры чым там казачны каньяк?..
Накірункі — правы альбо левы?..
Як мне надакучыла усё!..
Можа, я і патэлефаную…
Ды адно аднога ўжо цалуюць
Сябрукі. Тады яшчэ па «сто»…

### 5

Ноч. Музыка. І неяк знобка,
Хоць і пад коўдраю, ляжаць
І што ёсць моцы ўспамінаць
Цябе ды рэшту ад заробку.
Маўчаць цяпер скупыя сны,
Да раніцы яшчэ далёка.
Чарнечы неба вострых локаць
Бяльмом тырчыць ў акне зімы.
А я вачэй тваіх не помню.
Не, вочы помню. Колер — не.
Відаць, згубіў яго ў віне.
Як непрыгожа. Але што мне
Ад колеру тваіх вачэй
У лапах гэтай стылай ночы,
Якая ну ніяк не хоча
Рабіцца месяцам начэй?..
Затое помню твае рукі,
Пазногці доўгія, адзін
Крыху зламаны, але ім
Не сапсуеш карціны. «Букер»
Не атрымаць ніколі мне,
А патрымаць тваю далоньку
Не так, як кніжную старонку,
Шанс, думаю, не абміне.
Цяплом ад гэтага падзьмула…
Я спадзяюся, што цяпер
Мой неабдуманы намер
надзейны мае ўсё ж падмурак.

### 6

Дзень добры зноў. Мая рука
Па-злодзейску да тэлефона
Крадзецца, ды безвынікова:
Слоў у рукі маёй няма.
А каб былі, што б, мне цікава,
Табе распавяла б яна?
І ці парвалася б струна
Дасюль маўклівае гітары?
Хаця пры чым тут гэта ўсё?..
Відаць, мне час ісці напіцца,
Бо я не прынц, тым больш не рыцар.
Я — іншы. Быццам той шахцёр,
Вяду здабычу трапных рыфмаў
У шахце вобразаў і слоў…
Што будзе для цябе маной,
Мне — праўдаю. Хто закалыхваў
Твой позірк на рагу начы,
Калі шукалі мы адхлання?
Я не знайшоў цябе пад ранне,
А побач грукалі мячы.
То фільм кіношнікі здымалі,
А ты падумала — вайна.
Што ж, я не рыцар. Ты — адна.
І пустата ў глядзельнай зале.

### 7

Дабранач. Вось цяпер усё.
Канец рамана. Ці пачатак?
Я заплаціць не змог падатак
За дадзенае мне жыццё,
Таму і маюся па свеце,
Але не так, як Дон-Кіхот,
Хутчэй, мой маецца жывот,
Я ж блытаюся, як той вецер.
Куды табе мяне кахаць?
Хаця каханнем не пакрыўдзіш.
І ці дарэчы гэты кіпеж?
Таму што мне не дваццаць пяць?
Шкада, не зразумелі зразу.
Тады, відаць, раману — швах.
Мне зноў вяртацца да дзвях,
Табе — здавольвацца паразай.



Людміла ЛАЗУТА

# Бібліятэкарка

*Урывак з апавядання*

У камандзіроўку збіралася з настроем. Даўно нічога асаблівага не здаралася, усё як заўсёды: праца — крама — дом. Ні табе якіх вяселляў у радні, ні юбілеяў, ні наваселляў, нават і ў адведкі сёлета ні да кога не хадзілі. Мабыць, год такі, зусім без феерверкаў. Канечне, яно і добра, калі ўсё ідзе, як ідзецца, але такая ўжо наша жаночая натура — святы ёй падавай! Калі ж падумаць, то і праўда, без свят неяк зусім шэра, «выхадныя» сукенкі ў шафе засумавалі — рэчы, як і людзі, абыякавасць кепска пераносяць, не падабаецца ім, калі на іх існаванне забываюцца…

А паеду я спачатку электрычкай да райцэнтра, потым аўтобусам да вёсачкі, дзе трэба будзе амаль тры летнія месяцы працаваць у бібліятэцы, бо тутэйшая бібліятэкарка выйшла замуж, а ўстанову закрываць нельга. Да таго ж побач з вёскай да восені дабудуюць вялікі малочны комплекс і дом з кватэрамі для прыезджых спецыялістаў, так што жыццё забурліць. Без бібліятэкі ў вёсцы ніяк. У верасні абяцаюць маладога спецыяліста даслаць, а пакуль што падтрымліваць культурны ўзровень жыхароў давядзецца мне, не вельмі маладой жанчыне, якая ўсё яшчэ сумуе без свят. Не адразу я пагадзілася, канечне, — начальніца двойчы пра перавагі вясковага жыцця, асабліва летам, расказвала. А ці мне пра гэта распавядаць? Я ж да шаснаццаці гадоў у вёсцы жыла… Яшчэ не паспела на гэтыя перавагі забыцца. Аднаму, канечне, перавагі: на адпачынак прыехаць, грыбы-ягады збіраць, у рэчцы купацца, чыстым паветрам дыхаць, сырадой ранкам піць. А другому — праца сем дзён на тыдзень, бо кожны, акрамя працы, яшчэ і гаспадарку мае: хочаш добра жыць — клапаціся пра сябе сам. Пераваг і перамен жа мне, на самай справе, даўно хацелася…

Пра тое, што вёсачка пачынае мяняцца да лепшага, было зразумела па тым, што дарога была добра адрамантавана, аўтобус толькі злёгку пакалыхваўся, імчаў, як па еўрапейскай аўтастрадзе.

Сустрэла мяне будучая гаспадыня Галіна Сяргееўна. У яе і жыла мая папярэдніца, пакуль не змяніла прозвішча на мужава і не з'ехала аж у Мурманск, дзе вахтавым метадам працаваў яе суджаны. Спадабаліся мы адна адной, відаць, з першага погляду, бо, хутка папіўшы кавы, не згаворваючыся, накіраваліся аглядаць мясцовыя славутасці і маё новае месца працы. Ключы ад бібліятэкі і даныя пра кніжна-часопісны фонд былі ў Галіны Сяргееўны: ёй, як паважанаму чалавеку, настаўніцы-пенсіянерцы, усё даверыў сам загадчык раённага аддзела. Учора ён сказаў мне па тэлефоне, што майго прыезду вельмі чакаюць, і ўтульны пакой для пражывання падрыхтаваны.

Дом Галіны Сяргееўны па вясковых мерках быў немалы — тры пакоі і кухня з сапраўднай вясковай печчу. Калісьці тут жыла вялікая сям'я: яны з мужам, франтавым фельчарам, і чацвёра дзяцей. Жылі ў згодзе з сабой і з вяскоўцамі: хто лячыў, хто вучыў. За доўгае жыццё побач асвоілі сумежныя спецыяльнасці, чаго, дарэчы, ад нас на працы ўжо другі год патрабуюць таямнічыя «вышэйшыя органы», у патрэбны час маглі падмяніць адно аднаго па прынцыпе «хуткай дапамогі». Ды муж памёр, адзін сын у Афганістане загінуў, астатнія дзеці разляцеліся хто куды.

— Жывуць усе па-людску, маюць добрыя прафесіі, мяне да сябе клічуць, але я нікуды з дому не рухаюся, сэрцам прырасла да гэтай вёскі, загадала і пахаваць мяне тут. Але не будзем пра сумнае. Самая вялікая каштоўнасць майго жыцця тут у тым, што ўнукі на канікулы прыязджаюць. У нас з імі сур'ёзная дамова — размаўляем між сабою толькі па-беларуску. Калі хочаш, далучайся да нас, падпішам «дадатковае пагадненне», — весела бліснуўшы вачамі, скончыла распавед мая гаспадыня.

«Вось пашчасціла, я ж якраз надумалася, што апавяданне пра гэтую цудоўную жанчыну напішу, з унукамі будзе добры паварот сюжэта», — падумала я і з радасцю ў знак згоды паціснула рукі Галіне Сяргееўне і Сашку з Дзімам — удзельнікам «дамовы» з другога боку, якія разам з намі за вячэрай з ахвотай упляталі бульбачку, палітую смажаным сальцам, сяды-тады пацягваючы з кубкаў кіслае малачко. У нашу з бабуляй размову не ўмешваліся, але я заўважыла, як пільна, стараючыся зрабіць гэта па-дзіцячы непрыкметна, яны прыглядаліся да мяне. Знаёмая на вёсцы сітуацыя: заўтра ж трэба будзе даць «паказанні» ўсім зацікаўленым маім прыездам. Разумныя позіркі васьмігадовых стрыечных братоў надавалі мне ўпэўненасці, што лішняга наконт мяне будзе сказана няшмат.

Таго, што я пачала пісаць кароткія апавяданні «пра жыццё», не ведае яшчэ ніхто. «Добра, што пра сваю задумку сёння толькі сабе прагаварылася, вельмі перад гэтай лагоднай жанчынай пахваліцца хацелася, ажно язык свярбеў», — падумала я і тут жа пра ўсё забылася, бо хваля сну накацілася на мяне адразу, як толькі я апусціла галаву на падушку, якая пахла сонцам і свежым паветрам.

Як добра, што сёння субота! Паспею прызвычаіцца спачатку да новых жыццёвых умоў, а з панядзелка ўжо займу пасаду, пачну прывыкаць да новай працы. Паслядоўныя змены пераносяцца лепш, чым раптоўныя.

Галіна Сяргееўна з першым аўтобусам паехала ў суседнюю вёску — да сястры мужа, мяне ж даручыла сваім няўрымслівым унукам, а іх — мне. Ужо з сямі гадзін раніцы адчувалася іх гарачае жаданне хутчэй са мной павітацца: перыядычна за дзвярыма майго пакоя парыпвалі масніцы. Трэба ўставаць, тут табе не сталіца — не пагартаеш, лежачы ў ложачку, часопіс.

Вырашылі, што сёння хлапчукі пакажуць мне рэчку. Цудоўна, можа і паплаваем. Паціху зрушыліся. Проста ісці па дарожцы ў іх узросце немагчыма, таму яны то падскоквалі вакол мяне, распавядаючы пра свае прыгоды, то бегалі наперагонкі і хаваліся ў хмызняку, які аздабляў сцежку да ракі. Урэшце, рухацца мне давялося амаль што подбегам. Яно і добра, а то ўжо заседзелася.

Рака — проста красуня! З нашага боку бераг круты, адразу глыбіня, супрацьлеглы — пакаты, з дробным пясочкам уздоўж, ляжы сабе ды грэйся. Адпачнём, падумаем. Селі на траву і пачулі, як маладыя дубочкі з красунямі соснамі шапочуцца. Ну і няхай сабе, мы перашкаджаць не будзем, пасядзім трошкі, на рачныя хвалі паглядзім ды і дамоў пойдзем. Купацца не насмеліліся: надта ж вада халодная.

Вяртацца хлапчукі прапанавалі іншай дарогай, лясной. «Ісці далей давядзецца, але там вакол дарогі вельмі прыгожы лес, вам спадабаецца. Ягад пашукаем, мо ўжо і саспелі» — наперабой трашчалі яны. Ну што ж, згадзілася: не кожны дзень сённяшняя дзетвара дэманструе харaство свайго краю. Канечне, патрабавала паабяцаць, што не заблудзімся. Паабяцалі.

Хлопцы праўду казалі — прыгожыя тут мясціны. Лес змешаны, але перавага была за соснамі. Яны растуць не надта густа, роўныя, як салдаты на парадзе. Пад нагамі шмат ягадніку, лясных кветак. Галава ажно кружылася ад лясных водараў, якія агортвалі нас цалкам. Якія цудоўныя дні неспадзявана дае нам лёс!.. Можна зразумець Галіну Сяргееўну — ад такой прыгажосці адарвацца складана.



Фота Кастуся Дробава.

Праз якую гадзіну мы з падсіненымі вуснамі — пашчасціла-такі пакаштаваць спелых чарніц! — ужо крочылі па лясной гравійцы. Размаўляць чамусьці не хацелася, слухалі птушыныя спевы.

Пачуўся гук матора. За хвіліну з намі параўнялася бліскучая сіняя *Audi*, спынілася. Браты, на момант зусім забыўшыся на мяне, павіслі на ўладальніку машыны, які лёгка выпрастаўся побач, нібы саскочыў з сядзення, трымаючы пад пахамі абодвух хлапчукоў.

— Гэта наш хросны, дзядзька Іван, не хвалюйцеся! — наперабой крычалі яны, дрыгаючы ў паветры нагамі.

— Каб не хвалявацца, хутчэй трэба знаёміцца, — сказаў хросны, паставіўшы дзяцей на ногі. — Мяне вы ўжо ведаеце, а вас як завуць?

Я яшчэ і рот не паспела адкрыць, а непаседлівая моладзь ужо гучна дакладвала:

— Гэта цёця Света, бібліятэкарка, у бабулі жыве, учора прыехала. Мы на рэчку хадзілі.

Вычарпальна — дапаўняць не давялося! А ехаць у прыгожай машыне, з прыгожым чалавекам, па прыгожай дарозе, з прыгожай дзетварой вельмі прыемна. Седзячы на заднім сядзенні побач з Сашкам намагалася падумаць пра штонебудзь важнае, але ж неяк зусім не думалася, хацелася проста глядзець на дарогу і ўсміхацца. Зірнула ў люстэрка на вадзіцеля, заўважыла, што ў яго бліскучыя цёмныя вочы і што ён пазірае ў мой бок. Трошкі прыгладзіўшы свае валасы, старалася не ўсміхацца, каб зрабіць уражанне сур'ёзнай пасажыркі. Даімчаліся хутка. Гаспадыня яшчэ гасцявала — а чаму ж не пагасціць: унукі пад наглядам, апошні аўтобус будзе а шостай гадзіне вечара… Мы з маладым пакаленнем таксама галадаць не збіраліся — яечня з цыбулькай добра пайшла пасля нашага падарожжа. На вуліцы прыцямнела ад хмар — дождж, відаць, будзе. Вырашылі трошкі паляжаць на канапах, тэлевізар паглядзець. Паснулі.

Галіна Сяргееўна абвясціла, што сённяшні вечар аб'яўляецца святочным: да нас завітае паважаны госць — Іван, хросны бацька ўнукаў.

— Ён ненадоўга завітаў, па справах, а вячэраць будзем разам. Вось жа, даседзелася да вечара, старая недарэча, цяпер ужо часу зусім мала, нічога толкам не прыгатуеш, — прыгаворвала мая гаспадыня, заглядаючы ў халадзільнік.

Святочнае хваляванне агарнула і мяне. Пасля хвіліннага роздуму прапанавала спячы пірог з вішнямі, якія, размарожаныя для кампоту, стаялі ў халадзільніку. На пытальны позірк Галіны Сяргееўны ўпэўнена адказала:

— Паспею, смачны, мой каронны рэцэпт, не падвяду!

Праз гадзіну за сталом, накрытым прыгожым вышываным абрусам, трое дарослых і два хлапчукі мірна размаўлялі, смяяліся, паспеўшы паласавацца смажанай сялянскай каўбаской з бульбачкай. Нягледзячы на позні час, чакалі пірага, які даходзіў у духоўцы. Паспрабавалі — быў вельмі смачны. Хвалілі мяне, дзякавалі, асаблівa госць. Было прыемна — такая ўжо мая залежная ад агульнага ўхвалення натура. Усе разам правялі нашага госця да веснічак, Галіна Сяргееўна паклала на сядзенне ўпакаваную частку пірага: «Паснедаеш раніцай, табе ж ніхто не прыгатуе».

Паехаў. З палёгкай уздыхнула. Здаўна люблю моманты ад'езду задаволеных гасцей. Спаць, аб'еўшыся, не хацелася. Саша з Дзімам уляглiся. Не ўключаючы святло, сядзім на верандзе з адчыненымі дзвярыма, размаўляем, удыхаючы пах летняй ночы. «Як калісьці дома з мамай», — падумалася з болем.

Цяжка сказаць, колькі прайшло часу, — неяк адразу стала адчувацца напружанасць маўчання. Першай загаварыла Галіна Сяргееўна — яна ж амаль нічога пра мяне не ведала:

— Бачу, што ты добрая жанчына, і душа ў цябе, па ўсім відаць, харошая. Ды, як тая цыганка, бачу сум у вачах, нават калі смяешся. Ты сюды прыехала не на дзень. На каго сям'ю пакінула, ці чакае хто цябе дома?

Зацягваць распавед пра сябе не хацелася, таму я хутка адказала:

— Муж мяне не чакае. Уся сям'я — двое дарослых дзяцей, яны ўжо маюць уласныя сем'і, а я — унукаў. Абавязкова раскажу больш, але не сёння.

Пагадзіўшыся, Галіна Сяргееўна пачала распавядаць пра сваю сённяшнюю паездку, потым — пра нашага госця. Здароўе ў яе залоўкі яшчэ ёсць, хоць той ужо амаль восемдзесят пяць гадоў. А Іван — сябар зяця, разам служылі на Далёкім Усходзе. У мінулым спартсмен, трэнер, але кар'еру ўжо скончыў: траўму атрымаў. Цяпер займаецца конегадоўляй, спецыяльна за мяжу вучыцца ездзіў. Добры чалавек, праўда, адзінокі — жонка здрадзіла, пакуль пасля траўмы лячыўся. Цяпер з маці жыве, паступова душой адыходзіць. Сюды наведваецца зрэдку, толькі калі ўнукі ў бабулі…

— Ой, загаварыла я цябе зусім, — глянуўшы на гадзіннік, занепакоілася мая расказчыца. І мела рацыю — палова на другую.

…Зноў прыемны адыход да сну. Перад самай раніцай прысніла: стаю ля сасны на высокай гары — відаць, моцна лясныя харашуні сэрца кранулі…

На сняданак былі варэнікі з тварагом і смятанай — смаката. Што на наступным тыдні нядзелькай раненька, першым аўтобусам, накіруемся ў царкву, дарослыя і дзеці вырашылі разам. А сёння мне пакажуць вясковую навабудоўлю — запрасілі на агляд бабуля і ўнукі…

# Намастэ

Такую назву носіць індыйскі ды непальскі жэст паважлівага прывітання. Злучыўшы далоні перад сабой, ветлівыя жыхары гімалайскіх краін сустракаюць чаканых гасцей. Сэнс яго: «Боскае ўва мне вітае і злучаецца з боскім у табе». Напэўна, такім жа паяднаннем душ павінна стаць і знаёмства беларусаў са шматаблічнай літаратурай старажытнага Непала.

На жаль, у агульным доступе і цяпер яшчэ не маем дастатковай колькасці паўнавартасных перакладных анталогій. З цікавасцю гартаем выданне «Паэты Непала», што выйшла ва Узбекістане ў сярэдзіне мінулага стагоддзя, а таксама манаграфіі па культуры і прыгожым пісьменстве Непала прафесара Людмілы Аганінай. З новага на рускай мове выходзіла небагата… Не гаворачы ўжо пра выданні ў Беларусі. А шкада...

Вопыт захавання і развіцця нацыянальнай адметнасці і самасвядомасці жыхароў гэтай краіны варты пераймання. Нягледзячы на працяглую англійскую каланізацыю ды жорсткі рэжым «ранакратыі», непальскі народ захаваў сваю веру, духоўную і матэрыяльную культуру.

У Непале надзвычай развітая песенная народная творчасць, якой жывіцца і сучасная літаратура. Калі ўвесну сяляне апрацоўвалі рысавыя палі, то махалі матыкамі ў такт песні: музычны рытм дапамагаў ім працаваць! Чуйныя да творчасці суседняй Індыі непальцы пачалі літаратуру новага часу вялікім напеўным сюжэтным творам — паэмай творцы Аханубхакта, у аснову якой была пакладзена фабула «Рамаяны»…

Цікава, што аб'яднанне паэтаў, вершы якіх сёння прапаноўваюцца чытачу, называецца «Вясёлка». У ім сапраўды прадстаўлены творцы самых розных «адценняў». І тыя, хто працягвае развіваць дэкаратыўную тэму «ружа і салавей» (Шанкар Гардзей), і тыя, хто піша лірыку філасофскую (Бхімадршан Рока, Балкрышан Сам). А некаторыя з іх узнімаюцца нават да стварэння буйных эпічных палотнаў ваенных і экалагічных катастроф (Мадхаф Прасад Гхімірэ).

Паразважаць пра пакручасты лёс літаратур Непала, Індыі, Бангладэш, Пакістана, Афганістана, перакладчыцкія і культурныя стасункі гэтых краін і Беларусі збяруцца прадстаўнікі дыпламатычных місій, навукоўцы, літаратары, журналісты 24 жніўня ў Выдавецкім доме «Звязда» падчас круглага стала «Беларуская літаратура ў краінах Паўднёвай Азіі» ў межах праекта «Белліт і ўвесь свет». Расчыняць брамы Сусвету — значыць рабіць родную мову больш гнуткай, значыць станавіцца больш мудрым і спагадлівым. «Каб мір ды спакой на планеце не знішчыла сіла злая, / Гатовы я на вяршыню маю імклівa ўзняцца / І ў грудзі ўдыхнуць гэту хмару, як Шыва аднойчы атруту / Выпіў спакойна, цвяроза з думкай пра дабрыню», — піша Мадхаф Прасад Гхімірэ. З думкай пра дабрыню ладзяцца і падобныя сяброўскія сустрэчы, далучыцца да якіх могуць усе зацікаўленыя ў вывучэнні замежных літаратур, перакладчыцкай справе і актыўных міжнародных зносінах.

**Юлія АЛЕЙЧАНКА**



**Мадхаф Прасад Гхімірэ**

## Вадародная бомба

*Ў вачах маіх непазбытна —*
*разбітая Хірасіма…*
*Але вадародная бомба і зараз*
*ўсё рвецца ды рвецца!*
*І хваляй марскою слёзы льюцца*
*з вачэй няспернпна.*
*А Дух Разбурэння над светам*
*ашчэрыўся ў шале, танчыць!*

*Крычыць ён: «З абгрызенай*
*косткай даўно я*
*па стэпах вандрую,*
*І кожны мне падарожны*
*стацца можа абедам.*
*Зубамі іх рву на шматкі я,*
*з ахвотаю кроў выпіваю,*
*Пакуль яна не астыне.*
*Дзьму ў горан, шалёна танчу,*
*Ад цёплай крыві захмялеўшы.*

*Імклівай конніцы лава віхурамі*
*пыл уздымала,*
*Як змеі, зіхцелі на сонцы мячы*
*як пагроза жывому.*
*Лічыў мной забітых жорстка*
*я сотнямі тысяч, бывала,*
*Палонніц жа гнаў на чужыну,*
*каб кінуць у багну распусты.*

*І рэзаў сталёвым бортам*
*я хвалю вольную мора,*
*І пораху дым, быццам хмары,*
*з гармат сваіх выпускаў я.*
*На целе краіны пяшчотнай*
*крывавіла цёплая рана —*
*Бы сокал, з нябёсаў ляцеўшы,*
*снарадам ахвяру тараніў.*

*У дзеях сваіх ненажэрны,*
*я горы змяняў, перасоўваў.*
*Мне б сцерці дарэшты ўсе*
*косткі, спыніць род чалавечы!*
*— Хай будзе ўвесь свет*
*папялішчам,*
*сканае усё жывое! —*
*Кідаю я кліч вайсковы*
*ды бомбы кідаю, кідаю.*

*Дзе саду твайго зеляніна?*
*Яе спапяліў я дыханнем!*
*Дзе семя, жыццё што даруе?*
*Я сок нездарма яго выпіў!*
*Хачу скончыць род чалавека —*
*адно толькі маю жаданне!»*

*Шалеючы, Дух Разбурэння*
*пажарам-вайной пагражае.*
*Вось вырас грыб вадародны…*
*Як быццам зямлю разарвала*
*На часткі ў пыле і друзе!*
*І гром аглушыў .*
*Хістаюцца горы, а ў поле*
*попелам робіцца колас.*
*І ніцма падаюць птушкі —*
*паўсюль валадарыць атам!*

*І рэкі з поймы на бераг бягуць,*
*каб знайсці ратунак,*
*І сонца, і зоркі як быццам свой*
*згодны ход занядбалі…*
*А што чалавек? Ашалеўшы,*
*ў палоне бязрадасных думак*
*Ідзе цярністай дарогай*
*ў клубах атрутнага пылу.*

*У стане такім ён падманна*
*за ворага лічыць брата.*
*Няўжо зямлю сваіх продкаў*
*ён пусткаю зробіць імгненна?*
*Няўжо, да бітвы гатовы,*
*ён розум дашчэнту страціў*
*І будзе ў дзікунскім танцы*
*хістацца сярод безгаловых?*

*Ваду і агонь прыручыўшы,*
*зямлі гаспадар нязменны,*
*Няўжо на хвіліну забыўся,*
*паслабіў жалезную хватку?*
*І што? А сілы прыроды,*
*волю сваю адчуўшы,*
*Зараз ідуць у атаку, смерцю*
*табе пагражаюць.*

*Моц электрычнасці ў небе,*
*з пылам змяшаліся газы…*
*Няўмольна, упэўнена рушыць*
*хмара над голай зямлёю.*
*Яе не стрымаюць межы,*
*ёй няведама жальба.*
*Тысячы жыццяў рвуцца*
*пад дзікай смяротнай цемрай…*

*Прывідам попелу трызніць*
*ціхая далеч жывая,*
*Хвалі музыкі ўмёрлі, струны*
*лопнуць паспелі…*
*Як свечкі гараць адвячоркам*
*пікі маіх Гімалаяў.*
*Грукат — і раптам ціша зразу.*
*Гэта — смерць? Не памылка?*

*Што робіцца? Як скончыць мукі?*
*Адказны кожны за гэта!*
*Каб мір ды спакой на планеце*
*не знішчыла сіла злая,*
*Гатовы я на вяршыню маю*
*імклівa ўзняцца*
*І ў грудзі ўдыхнуць гэту хмару,*
*як Шыва аднойчы атруту*
*Выпіў спакойна, цвяроза,*
*з думкай пра дабрыню.*

**Пераклад Юліі АЛЕЙЧАНКА**

**Балкрышан Сам**

## Паэзія і жывапіс

*Распавесці пра мару —*
*Я звонкія рыфмы складаю.*
*Я малюю — дык мару ў маім*
*палатне пазнаюць.*
*Вершы як напішу — твае песні*
*душой адчуваю,*
*А за пэндзаль вазьмуся,*
*каб бачыць усмешку тваю.*
*Я паэт… І цябе толькі вершам,*
*канечне, паклічу.*
*Ты паклічаш мяне — мастаком*
*станаўлюся я зноў.*
*Як да сэрца твайго мне дайсці?*
*Слоў няма — толькі ціша…*
*І твой позірк няўлоўны…*
*Ні пэндзля не будзе, ні слоў…*
*Ў яркі вобраз жыццё я ўдыхну —*
*у любую карціну.*
*За жыццё ў барацьбе я загіну*
*змагу як паэт.*
*Вечна жывапіс*
*побач з паэзіяй — іх не пакіну!*
*Месяц мае святло.*
*Гэта — Вечнае. Гэта — Сусвет.*

**Бхімадршан Рока**

## У дарозе

*Ішоў я…*
*Азірнуўся раптам.*
*Стой!*
*Тут прорва зеўрае*
*пустэчаю скразной.*
*Яе прайсці я здолеў,*
*праміную.*
*Ды не адзін:*
*дарогаю ідуць*
*народы, сем'і —*
*ланцугі людзей!*
*Яны да прорвы*
*ўсё бліжэй, бліжэй!*
*Трывога нарастае*
*ў грудзях:*
*Адзін няверны крок — і…*
*Жах!*
*… Але пакуль*
*расповеду канец:*
*цяпер назад вяртацца*
*трэба мне…*

**Пераклад Яны ЯВІЧ**

**Сідхічаран Шрэштх**

## Вадаспад пры месячным святле

*Ні на момант не змаўкае —*
*Звонкі, бурны, малады.*
*Глыбіня душы такая —*
*Песня ў ёй гучыць заўжды!*
*Слухаюць яе і сонца,*
*Кветка кожная і грот.*
*Доўжыцца яна бясконца,*
*Ачароўвае штогод.*
*Адбіваюцца ў струмені*
*Лісце, месяц, зоркі ўсе,*
*Як і ён у тым імгненні*
*Адбіваецца ў расе…*
*Добра быць багатым, важным,*
*Шчодрым быць, як вадаспад!*
*На прасторы неабсяжным*
*Раздарыць сябе ён рад.*
*Тут, у кветкавай краіне,*
*Кожны мае супакой.*
*Апрача бурлівай плыні,*
*Што ўсё бег не спыніць свой.*
*Месяц свеціць невагомы*
*Над сплячэннямі ліян,*
*А паток шукае дому*
*І бяжыць у акіян.*

**Шанкар Гардзей**

## Чаму я надзела сёння свае ўпрыгажэнні

*Мой гаворыць убор — на мяне*
*паглядзі:*
*Ружа ў косах маіх для цябе*
*зіхаціць,*
*Каб, ласкаючы пахкі дурман*
*валасоў,*
*Ты мякчэй за пялёсткі іх хвалі*
*знайшоў.*
*Бы агонь гэта кветка*
*ў праборы гарыць…*
*Не была прыгажэй я да гэтай*
*пары.*
*Кліча звон бранзалетаў*
*зіхоткасцю зор:*
*Паглядзі на мяне, для цябе*
*мой убор.*
*Любы мой, хай астатнія*
*знікнуць, як сон —*
*І не ты мяне зманіш*
*ў пяшчотны палон.*
*Валадаркай тваёй быць*
*жадаю сама,*
*Свой убор я надзела цяпер*
*нездарма.*
*Цяжка з лёсам спрачацца:*
*не радасна, не,*
*З задуменнай усмешкай*
*глядзіш на мяне.*
*О, як сорамна стала!*
*Бо ўведала я,*
*Што і ружы, і ўбор,*
*і сукенка мая*
*Для кахання — нішто,*
*а душы прыгажосць —*
*Даражэй за ўсе уборы,*
*калі яна ёсць.*

**Пераклад Валерыі РАДУНЬ**

**Бхавані Бікшу**

## Вулічны спявак

*Трохструнная сарангі [1]*
*І плача, і смяецца.*
*У гуках, як наяве,*
*І боль, і весялосць.*
*Што скажа — зараз рэхам*
*У людзях адзавецца.*
*Жыве мая сарангі,*
*І ў ёй сусвет свой ёсць.*
*Сусвет той разнастайны:*
*Кароль і каралева,*
*Герой, вучоны, грэшнік,*
*Нягоднік мае быць.*
*Пяе мая сарангі*
*Пра ўсё, што набалела,*
*Пра ўсё, што сэрцу міла —*
*Аж не пералічыць.*
*І паўстаюць няспынна*
*Мінулага ўяўленні:*
*Цяпер у занядбадзе —*
*Дзівосныя сады,*
*Праходзяць чарадою*
*Сівыя пакаленні,*
*І толькі пыл развалін*
*Іх беражэ сляды.*
*У пышнай галерэі*
*Зноў зззяюць канделябры,*
*Карціны захапляюць —*
*Вось гэта мастакі!*
*Як лебедзь, што пусціўся*
*Ў сваю дарогу храбра,*
*Плыве ракой эпохі*
*Палац той зіхаткі.*
*Знікаюць у блакіце*
*Зубцы вялізных вежаў…*
*Крыштальныя азёры,*
*З мармуру берагі…*
*Вось храм — сваім убраннем*
*Да лепшых ён належаў,*
*Вось горад, дзе ніколі*
*Не ведаюць тугі.*
*Пяе мая сарангі*
*Пра злучаных саюзам.*
*Ахвяры і пакуты.*
*Пра подзвігі пяе.*
*Што ў памяці народнай*
*Ляжыць бясцэнным грузам,*
*Але вазьму сарангі —*
*Адразу ажыве!*

**Пераклад Адама ШОСТАКА**

1. Трохструнны музычны інструмент, які нагадвае скрыпку.

# Рыгор Барадулін: «Едзем на цаліну…»

**Народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін (1935—2014) ва ўсе гады свайго жыцця быў цесна паяднаны са многімі прасторамі, многімі геаграфічнымі адрасамі. Яго крынічную паэзію ў значнай ступені сілкавалі далёкія і блізкія паездкі, сустрэчы, уражанні, адкрыцці. Пачатак такому шляху быў пакладзены ў студэнцкія гады…**

Чытаем у дзённіку паэта: «Прадаўжаю пісаць дзённік ужо ў Златаусце трэцякурснікам. 17 (ліпеня) пакінуў Ушачы. Едзем на цаліну. «Трымайся, цаліна». Провады на мінскай таварнай станцыі. Праўка бока. У Оршы пілі кофе. Вандравалі.

Праехалі Смаленск.

У Туле абедалі (гадзіны ў 4 раніцы). Затым Пенза. Пензенская вобласць. Цудоўна прыгожыя лясы. У Сызрані кармёжка.

Пераязджалі Волгу. Цуда! Ноч. Месяц, як пражэктарам, адбівае дарожку. Каса, як страла, разразае гэтую дарожку. Маякі, як зоркі ў вадзе. Рыбак (гэта пра будучага пісьменніка Алеся Рыбака — **А. К.**) бачыў рэйкі. Смех, весялосць.

Куйбышаў.

Уфу прагулялі ў карты. Рака Белая, рака Уфа.

Урал непараўнальны. Могільнік імён. Бярозкі бягуць уверх, як дзяўчаты, ад ракі. Гарбы Урала…»

Гэтыя радкі — з ліпеньскіх запісаў 1956 года. А ў 1957 годзе ўжо ў вершаванай форме памяць паэта нагадвае пра тыя ўражанні.

*Вагон таварны дрогка тузае.*
*Гарыць, трапеча стэарын.*
*Там жарты заглушае музыка*
*Тут многіх сон пасцеў скарыць.*
*А вецер, дым над дахам сцелячы,*
*Праводзіць у далёкі шлях.*
*Ды нам, на шчасце, з поўным,*
*Велічна*
*Дарогу Волга перайшла.*
*І зорным золатам размолатым*
*Шлях млечны неба запыліў.*
*Урал гасцінным рускім волатам*
*Ручнік чыгункі раскаціў.*
*Абапал — па дарожных*
*правілах —*
*Слупы з падпорамі — ў струну,*
*Бы плечы два сябры падставілі,*
*Каб трэці мог далей зірнуць.*
*Нарэшце, вольны стэп…*
*Пякучае,*
*Тут сонца не шкадуе нас.*
*І ўжо гадзіннікі падкручваем.*
*Спяшаецца цалінны час.*

Гэтым вершам адкрываецца першая кніга Рыгора Барадуліна «Маладзік над стэпам», выдадзеная ў 1959 годзе, калі паэту было ўсяго 24 гады. 13 «цалінных» вершаў — у першым раздзеле кнігі з выразнаю назваю «Вечар над Таболам». Паэтычны цалінны дзённік…

1956 год. Пачатак асваення цалінных земляў. У 1956-м цаліна ўжо давала ўраджай, пра які дагэтуль толькі марылі, — 16 цэнтнераў з гектара. Гэта цяпер у нас, у Беларусі, ёсць гаспадаркі — у Нясвіжскім, Гродзенскім раёнах, дзе 100 цэнтнераў з гектара становіцца нормай. Тады ж, у сярэдзіне 50-х, тысячы, дзясяткі тысяч маладых людзей ехалі ў цалінны край за куды меншымі здабыткамі. І ўсё ж па тым часе значнымі, вельмі важкімі і для Казахстана, і для ўсёй савецкай краіны. У 2004 годзе Прэзідэнт Казахстана Нурсултан Назарбаеў назваў засваенне цаліны грандыёзным сацыяльна-эканамічным праектам XX стагоддзя, аналагаў якому ў сусветнай гісторыі не было. І яшчэ Нурсултан Абішавіч згадаў пра словы паэта Валерыя Пракурава, які назваў цаліну новай краінай, новай планетай.

Чытаем далей у дзённіку Рыгора Барадуліна: «…Затым Азія. Становіцца гарачэй. У Карталах піў кампот. Лыжак няма. Такому фрукту, як мне, прыйшлося цягаць фрукты рукой.

Нарэшце мы ў станцыі Брэды. Адсюль нас пагрузілі ў дзве парты і ў саўгас імя Фрунзэ. Машына як п'яная. Суслікі ў ганаровай варце. Побач з машынай лятуць шпакі. Таксама, відаць, перасяленцы-цалiннікі. Стаяў ззадзі. Чорны як негр. Мыў «личность» два разы ў казахскіх рэках. Ледзь не забыўся такі важны момант. У Брэдах заправіўся. У сталоўцы смяюцца саўгаснікам: тут вам не Казахстан (Брэды ў РСФСР). Чэчко хахміў у дарозе. Нагналі нашых (ад сваіх адсталі, пакуль елі)…» І далей: «Нарэшце і зернесаўгас імя Фрунзэ. Прыехалі зацемна. Нам адвялі палаткі. Цуда. Прывезлі сена…» Такім быў пачатак цалiннай эпапеі Рыгора Барадуліна ў 1956 годзе. «Эпапеі», што вывела беларускага паэта на «цалінны цыкл» вершаў «Вечар над Таболам». Трынаццаць вершаў у гэтым раздзеле кнігі: *** Вагон таварны дрогка тузае…»; «Цалінная пшаніца»; «*** Б'е пярун прамой наводкай»; «Маладзік над стэпам»; «Перад пачаткам сеанса»; «Насціна кухня»; «Перакаці-поле»; «Танцы ў стэпе»; «Іменіны»; «У палатцы», «Ліст з дому»; «Вечар над Таболам»; «*** І венікамі з лозаў ніцых…»

*І венікамі з лозаў ніцых*
*Брыгадны ток падмецены.*
*І з красак стэпавых, пшаніцы*
*Вянкі руплiва сплецены.*
*Каля палаткі тэрмінова*
*Сабраліся цалiннікі.*
*Сам брыгадзір пачаў прамову*
*Падвесці трэба вынікі.*
*Прэзідыум тут не абраны,*
*Паперамі не шастаюць.*
*Кудлаціць вецер апантаны*
*Хлапцам чубы віхрастыя.*
*І асвятляе мітынг гэты*
*Камбайн сваімі фарамі.*
*Ды вось і ўсе вянкі надзеты*
*І вопleскі раздараны.*
*Не ўсе з вянкамі — ды нічога*
*(Сплялі іх малавата мы).*
*Уперадзе ўраджаяў многа*
*І цаліны няўзнятае.*

Пісаліся вершы «цалiннага цыкла» Рыгорам Барадуліным у 1956—1958 гадах. Варта нагадаць, што ў тым самым 1956 годзе разам з аўтарам «Маладзіка над стэпам» казахстанскую цаліну асвойвалі будучыя пісьменнікі Алесь Рыбак, Леанід Яўменаў, Кастусь Цвірка, Міхась Шушкевіч, Аляксандр Харкевіч… Лічы, цэлая кагорта! Гартаючы старонкі дзённікавых запісаў Рыгора Барадуліна, адкрываеш гісторыю тых ці іншых вершаў. Напрыклад: з запісаў ад 25 ліпеня: «…Пасля абеду пайшлі на Табол… Потым вясёлка над Таболам. Праўда, толькі адзін канец дугі. Успамінаецца дом, Ушачы. Табол нічым не адрозніваецца ад нашых беларускіх рэк. Чарот, як футравая атарочка…»

*Павекі ўжо заплюшчылі лілеі,*
*Сняць, ліст-далонь падклаўшы*
*пад шчаку*
*Табол парушыць іх спакой*
*не смее —*
*Стамлёна расцягнуўся на пяску.*
*І вецер так залётаўся, што,*
*ўрэшце,*
*Тут падрамаць у чараты*
*прылёг…»*

Гэтыя радкі — з верша «Вечар над Таболам».

Канечне ж, у дзённіках — шмат цалінных, стэпавых, казахстанскіх колераў. «Пшаніца б'е струменем…»; «Кавыль распусціў свае валасы»; «Я пахадзіў па стэпе. Палюбаваўся на пшаніцу. Хораша. Ноч зорная, лагодная, цёплая. А месяц-насмешнік так і смяецца хітра»; «Так і хочацца ступаць у зерне. Як у раку ранішнюю…»; «Маланка як жахне — паўнеба азорана. Затым гром як кашляне, што аж зямля трасецца…»; «З абеду на таку. Перасыпалі кучы. Зерне спрасавалася. Нагадвае скалы нейкія. А семяны перакаці-поля аздабляюць іх цудна. А як гэтыя скалы праразае струмень зерня, ну як раўчукі ці пасля дажджу. Зерне як сыпнеш лапатай, як шпакі перад выраем падаюць на зямлю…»; «Цікава пшаніца на таку. Як барханы ў пустыні. След, точна ў пустыні. Няроўны. Ямачка толькі. Вось каб такіх «пустыняў» паболей. Жыць было б можна…»

У сярэдзіне верасня Рыгор Барадулін развітваецца з казахстанскай цалінаю. Запіс ад 15 верасня: «Усталі рана. Ранак маразяны крыху. Шэрань, павуціна, як стужка фініша. На лужынах танюсенькі лядок. Пайшоў узяў мяшэчак пшаніцы на памяць. Пшаніца спіць у буртах. Салома падобна шэранен…» І яшчэ: «Спрабавалі з Косцем (Цвіркам) намаляваць плакат «Беларусь, ад зямлі Казахстана мы табе прывітанне нясём!» Дарэчы, у гэтым запісе згадваецца і канкрэтны адрас: «…Джэтыгара здалася нам горадам пасля Цэнтральнай. Беленькая-бялюткая, чысценькія хацінкі…» Размова, відавочна, пра Жыцікару-Джэтыгару. Горад, які размешчаны на рацэ Шортанды. Канцавая станцыя чыгуначнага адгалінавання (109 км) ад лініі Карталы — Астана. Насельніцтва зараз недзе каля 35 тысяч чалавек. Некалі на месцы горада быў казахскі аул Конільдзі — што значыць «вясёлы, радасны». З 1915 года паселішча называецца Джэтыгара. А ў 1997 годзе, 30 красавіка, транскрыпцыя назвы горада Джэтыгара была зменена на Жыцікара.

Такі вось беларускі літаратурны адрас у Казахстане. Такая вось казахстанская памятка ў творчым лёсе народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

## Штрыхі



## «Пілі душой з тваёй крыніцы»

Першы раз я пабываў у Глыбокім у далёкім дзяцінстве. Нашы з гадавальніка ездзілі на машыне з Полацка ў садавіннаагародніннную гаспадарку «Яблынька», з імі напрасіўся дзякуючы маме і я. Тое дзіцячае ўражанне памятаю і цяпер.

Тады мяне ўразілі плошча і два храмы, што стаялі насупраць адзін аднаго… Касцёл тады я бачыў упершыню ў жыцці, а ў маім Полацку з праваслаўных храмаў дзейнічала толькі маленькая цэркаўка Спаса, іншыя ж былыя духоўныя пабудовы знаходзіліся ў занядбаным стане.

Тут жа, у Глыбокім, у тыя атэістычныя часы такі велічны пейзаж і дагледжаныя дзеючыя храмы выглядалі нязвыкла і вабна, як многае ў іншых заходнебеларускіх мястэчках.

Гэтае адчуванне адметнасці і прывабнасці не згубілася і праз шмат гадоў, калі я стаў часта наведваць горад па журналісцкіх справах, калі пасябраваў з сяброў-пісьменнікаў.

Тады ж я пачаў цікавіцца гісторыяй гэтага краю. Як паведамлялі крыніцы, Глыбокае ўпершыню згадваецца пад 1414 г. як зямля, што належала Зяновію Братошычу. Ён атрымаў ад вялікага князя Вітаўта дазвол на права валодаць бацькоўскімі землямі (сярод іх згадваецца і маёнтак Глыбокае). Наступнае летапіснае згадванне пра Глыбокае адносіцца да 1514 года. У Літоўскай метрыцы адзначаецца, што «старец барина Юрия Дисненского… забил человека барина его милости Верхнянца… идучи с торгов с имения барина Юрия с Глубокого…». Адсюль можна зрабіць выснову, што ўжо ў пачатку XVI стагоддзя мястэчка Глыбокае было буйным гандлёвым цэнтрам.

У той час Глыбокае было падзелена на дзве часткі: паўднёва-заходняя належала Зяновічам і ўваходзіла ў склад Ашмянскага павета Віленскага ваяводства, паўночна-ўсходняя — Корсакам і ўваходзіла ў склад Полацкага ваяводства. Цэнтрам паўднёва-заходняй часткі была гандлёвая плошча з крамамі, складамі, уніяцкай царквой, шпіталем. Тут быў пабудаваны Глыбоцкі замак. Паўночна-ўсходняя частка Глыбокага таксама мела ў цэнтры гандлёвую плошчу, ад якой пачыналіся шляхі на Дзісну, Полацк і мястэчка Беразвечча.

Першымі экскурсаводамі па цікавых і вабных мясцінах Глыбокага сталі Валодзя Сауліч ды Алесь Жыгуноў. З імі я сышоўся і пасябраваў падчас семінараў маладых пісьменнікаў Віцебшчыны, якія праводзіліся тады штогод. Абодва, як і рамантычная Марыя Баравік з Падсвілля, былі ўжо сапраўднымі зоркамі маладой беларускай літаратуры. Пазней цікава заявілі пра сябе старэйшыя па ўзросце Фама Ляшонак і Віталь Гарановіч. Такім чынам, аказалася, што на Глыбоччыне жывуць і працуюць сапраўдныя пісьменнікі. І калі ў мяне ў дзевяностых гадах мінулага стагоддзя з'явілася ідэя ў межах Віцебскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў стварыць асобны творчы філіял, то па патрабаванні глыбачан мы назвалі яго Полацка-Глыбоцкім. Плёнам нашай дзейнасці сталі не толькі частыя сумесныя выступленні ў розных кутках нашага рэгіёна, але і два выпускі літаратурнага альманаха «Край», які сёння з'яўляецца сапраўднай бібліяграфічнай каштоўнасцю.

І калі я пераехаў у Мінск, стасункі з гэтымі цудоўнымі людзьмі, з краем, на шчасце, не перапыніліся. Не раз мы з Алесем Пісьмянковым гасцявалі ў Віталя Гарановіча, дапамагалі яму рэдагаваць кнігу вершаў, былі ў кампаніі з Алесем Карлюкевічам у школе, дзе ён дырэктарстваваў. Дарэчы, гэта была адзіная ў горадзе школа, дзе ўсе прадметы выкладаліся па-беларуску.

Увогуле, традыцыі беларускасці ў Глыбокім адчуваліся, як, бадай, нідзе на Віцебшчыне. Былая загадчыца раённага аддзела культуры Марыя Паляк не толькі сама выдатна валодала мовай — пры яе непасрэдным удзеле і спрыянні ўшаноўвалася памяць пра Ігната Буйніцкага, стварыўся музей бацькі беларускага тэатра ў Празароках, там жа быў устаноўлены помнік Буйніцкаму.

А якімі руплівіцамі роднага прыгожага пісьменства былі мясцовыя бібліятэкары! Раённая цэнтральная бібліятэка не раз арганізоўвала захапляльныя імпрэзы, на якіх так вольна і шырока гучала беларускае слова.

Глыбокае нечакана ўвайшло і ў мой асабісты лёс. Там адгуляў сынава вяселле, і цяпер у блізкіх Шуневічах, усяго за тры кіламетры ад горада, жыве мая глыбоцкая радня, куды ездзіць з Мінска да бабулі мой маленькі ўнук.

«Драздовіч, Корсак і Буйніцкі / Пілі душой з тваёй крыніцы. / А як ваколіц сіні лён, / І ўсюды дух наш беларускі…» Гэта радкі з верша пра Глыбокае, напісаныя Віталем Гарановічам. На жаль, няшмат я адшукаў паэтычных радкоў, прысвечаных гэтаму беларускаму месцу. Таму хочацца, каб гораду часцей прысвячалі радкі нашы паэты, празаікі, публіцысты. Ён гэтага заслугоўвае.

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

# Ад гістарычнага да асабістага

## Жывапіс з беларускім характарам



*«Беларускія атланты».*

**Пра гераізм, нязломную волю і стойкасць беларусаў, пра тое, як характар народа выразна і ярка праяўляецца ў крытычных сітуацыях, піша малады мастак-баталіст Уладзімір Сайко. «Першая чвэрць творчага шляху» — так называецца яго выстаўка, якая адкрылася ў Прэзідэнцкай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь.**

Мастак любіць эцюды, адлюстроўваючы прыроду, падзеі, асобы максімальна шчыра і праўдзіва. Ён піша з натуры, нават калі трэба ўзнавіць складаную гістарычную падзею. У гэтым дапамагае ўдзел у брэсцкім клубе рэканструктараў «Рубеж». Эцюды, дарэчы, становяцца імпульсам да стварэння вялікіх, у некалькі метраў, батальных работ. Захапленне няпростай тэмай пачалося з палатна, якое стала потым сімвалічным, — «Беларускія атланты». Яно апавядае пра трагічныя падзеі ля ракі Бярэзіны ў лістападзе 1812 года.

У раёне вёскі Студзёнкі, што пад Барысавам, напалеонаўскія войскі перапраўляліся праз раку. Беларускія ваяры былі на абодвух баках — і французаў, і рускіх... «Карціна распавядае пра землякоў, якія сталі на бок Банапарта. Але я не пра іх выбар. Я толькі захапляюся мужнасцю беларусаў, якія ўпарта стаялі за сваю праўду. Яны трымалі мост на сваіх плячах, а потым загінулі. Усе... У працэсе стварэння палатна я зразумеў, што яно мае алегарычны сэнс. Беларусь — звяно паміж Усходам і Захадам, адна з апор для маста, які ўвасабляе раўнавагу ў еўрапейскай гісторыі. Праз нашы землі спакон стагоддзяў праходзілі важныя гандлёвыя шляхі і разбуральныя войны, наша гісторыя — вялізная частка сусветнай», — разважае Уладзімір Сайко.

Адна з галоўных функцый яго карцін — адукацыйная. Чалавек павінен не проста хацець павесіць палатно на сцяну, а разабрацца ў ім, штосьці ўсвядоміць, перавярнуць у сабе. Стаць лепшым. У 25-гадовага мастака ўжо цэлая плеяда вучняў: малодшаму — шэсць, старэйшаму — сорак пяць. Займаецца з імі ва ўласна створанай студыі-майстэрні жывапісу і малюнка, выязджае на пленэры, праводзіць выстаўкі.

Дарэчы, пленэр, паводле слоў Уладзіміра Сайко, галоўны падмурак сапраўднага жывапісу.

Куды ён толькі не выязджаў з мальбертам, падарожнічаў па самых непраходных месцах радзімы. І ўсё роўна — яму мала! «Якой бы Беларусь ні здавалася маленькай, мне як мастаку і дзесяці жыццяў не хопіць, каб усвядоміць і паказаць усю яе прыгажосць», — прызнаецца аўтар. Уладзімір Сайко ўмее злавіць і захаваць момант не горш за фатографа, стварае дынаміку. Піша ён хутка. Карціну «Пружанскі палацык», напрыклад, стварыў з натуры ўсяго за паўтары гадзіны, на студзеньскім марозе.

Захапляецца гісторыяй. Адсюль і на карцінах — фрагменты падзей Першай і Другой сусветных войнаў. Самая маштабная — пра Нарачанскую наступальную аперацыю рускай імператарскай арміі (у якой было вельмі шмат беларусаў) у сакавіку 1916 г. На кавалку зямлі ў 70 квадратных кіламетраў сабралася паўмільёна салдат з абодвух бакоў. Вынік — велізарная колькасць загінуўшых! А прасоўванне па лініі фронту склала ўсяго толькі 10 кіламетраў...

Асобны «радок» экспазіцыі — цыкл, прысвечаны беларускай жанчыне. Цёплыя, пяшчотныя партрэты сяброў, блізкіх, маладых і пажылых, а галоўнае — бабулі, Алімпіяды Ануфрыеўны, з якой мастак правёў дзяцінства. Ён прысвяціў ёй больш як 20 карцін і цэлую асобную выстаўку.

А яшчэ Уладзімір Сайко — кніжны графік, афарміцель паэтычных зборнікаў. Мастак родам з Валожына, скончыў Рэспубліканскі каледж мастацтваў імя. І. В. Ахрэмчыка і Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў. Адукацыйная схема, здавалася б, класічная, а светапогляд — незвычайна шырокі. І вялікі творчы багаж за плячыма для такога маладога ўзросту. У дзень адкрыцця выстаўкі ў Прэзідэнцкай бібліятэцы прайшла і творчая сустрэча з майстрам, дзе ён яшчэ раз падкрэсліў, што свой талент можна развіваць незалежна ад узросту і магчымасцей. Трэба проста шчыра захапляцца жыццём у яго разнастайнасці і спантаннасці.

**Марыя ВОЙЦІК**

# За межы майстэрні

## Чым здольныя здзівіць айчынныя дызайнеры?

Выбар стылю ў адзенні, пошук трэндавых мадэлей — важны складнік жыцця. Прымаўка «сустракаюць па адзенні» актуальнасці не згубіла, а, наадварот, стала пэўным лейтматывам пры розных сітуацыях — пошуку працы, паходзе ў тэатр, нават для прагулкі вопратка павінна быць адпаведнай.

Што ў модзе сёлета: лёгкія спадніцы мідзі альбо штаны-бойфрэнды, які колер выступае як хіт сезона — ружовы кварц альбо «сірэніці» (спакойна-блакітны) — усё гэта вырашаюць дызайнеры з сусветным імем. Менавіта да іх прыслухоўваюцца модніцы розных краін, за іх мадэлямі едуць за мяжу. Але ж у выніку бясконцай «гонкі за стылем» многія перастаюць заўважаць, што ёсць шмат цікавага ў скарбонцы ідэй айчынных дызайнераў.

А яны (у нашым выпадку) прапаноўваюць абсалютна ўнікальныя рэчы, здольныя скласці канкурэнцыю замежным брэндам, па-першае, па якасці, па-другое, па тэхніцы выканання. Напрыклад, на мінулым тыдні ў мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» на агляд сталічнай публікі прадставіла калекцыю аўтарскіх работ «Свой стыль» дызайнер з Маладзечна Людміла Хрол, якая, па меркаваннях гасцей выстаўкі, прэтэндуе на тое, каб яе мадэлі адзення выйшлі за межы творчай майстэрні.

Трывіяльнасці ў яе работах няма зусім, а вось «свой стыль» бачны ў кожным элеменце. Пачынаецца ўсё з жаночых сумак, прадстаўленых у розных стылёвых рашэннях. Ёсць спартыўныя, выробленыя з джынсавага матэрыялу, ёсць класічныя, прызначаныя для сур'ёзных падзей. Ёсць і сумкі з ручной вышыўкай, што надае элегантнасці, вытанчанасці. Далей наведвальнікаў чакаюць вязаныя касцюмы і сукенкі разам з накідкамі. Мадэлі ўніверсальныя, падыдуць для прыхільніц моды любога ўзросту. Ёсць, канечне, і экспанаты, створаныя спецыяльна для старэйшага пакалення. Тут пераважае класічны падыход, які ў любы час застаецца ў трэндзе. Да многіх трыкатажных камбінацый прыкладаюцца галаўныя ўборы, а вязаныя сукенкі прывабліваюць і арыгінальным дызайнам, і асобнымі дэкаратыўнымі элементамі. Іх стрыманыя светла-кафейныя адценні надаюць мадэлям асаблівы стыль.

Глядзіш на экспанаты і здзіўляешся, адкуль у аўтара столькі ідэй і натхнення, бо працэс сапраўды крапатлівы, цяжкі. Гэта вынік усё тых жа модных тэндэнцый альбо ўласная фантазія, талент? Наколькі сучасныя беларускія жанчыны зацікаўленыя такімі рэчамі? На гэтыя пытанні карэспандэнту «ЛіМа» адказала Людміла Хрол:

— Я не ігнарую моду, заўсёды сачу за тэндэнцыямі. Але ўсё ж імкнуся ствараць мадэлі, якія могуць вельмі доўга заставацца стыльнымі і актуальнымі. Калі аддаеш шмат сіл, немагчыма рабіць аднадзёнкі, таму я ўсё дэталёва прадумваю. Хочацца, каб рэч служыла доўга, каб яна была з утульных, натуральных матэрыялаў і, вядома ж, адпавядала ўнутранаму свету чалавека. Стварэнне адзення



*Дызайнер Людміла Хрол.*

падобна стварэнню скульптуры. Ты пачынаеш нешта ляпіць з кавалачка тканіны, а ў выніку атрымліваеш рэч, якая аблягае чалавека як другая скура, адпавядае не толькі запытам спажыўца, але і яго тэмпераменту, нават псіхалагічнаму стану.

Дызайнер перакананая, што ў выніку чалавек мяняецца не толькі звонку, але і знутры. У працэсе работы Людміла доўга размаўляе з жанчынамі і спрабуе зразумець, які стыль ім падыходзіць. Але эксперыментуе толькі з тымі, хто гатовы працаваць над сабой.

Усе жаночыя мадэлі дызайнера накіраваны на пазіцыянаванне жаноцкасці як сімвала прыгажосці і непаўторнасці. У экспазіцыі не сустрэнеш афіцыйна-дзелавых касцюмаў альбо строгіх спадніц. Мадэлі лёгкія і абсалютна разнастайныя. Становіцца цікава, ці можна такое адзенне выпусціць на айчынны рынак, ці ёсць у гэтым сэнс? На гэты конт у Людмілы Хрол сваё меркаванне:

— Элементы дызайнерскай творчасці на рынак выпусціць можна, але такая творчасць не можа быць рынкавай. Сёння многія прывозяць брэндавае адзенне з розных краін свету, не зважаючы на тое, што ёсць у нас. Дык наколькі актуальны маштабны занятак індывідуальным мадэляваннем адзення?

Экспазіцыя «Свой стыль» — магчымасць не толькі для аўтара прадставіць работы шырокай аўдыторыі, але і шанс для беларусаў пераасэнсаваць стаўленне да прапаноў айчыннай дызайнерскай індустрыі. Выстаўка закранула праблемы выхаду айчынных мадэляў на шырокую прастору, дала нагоду для разваг. Адзінае, чаго не хапала гледачу на адкрыцці праекта, — каб аўтарскія мадэлі былі прадстаўлены не на манекенах, а ў выглядзе дэфіле.

**Вікторыя АСКЕРА, фота аўтара**

# «Мне ёсць што сказаць»

## Як рэжысёр Влада Сянькова шукае будучыню

**Цяпер беларускае кіно аднаўляецца. У якасці адраджэнцаў часцей за ўсё выступаюць маладыя рэжысёры, аператары, акцёры. Яны ўсе разам шукаюць будучыню і для сябе, і для сваіх фільмаў. І, ведаеце што? Знаходзяць! Адзін з такіх прыкладаў — малады рэжысёр Влада Сянькова.**

### СТАЦЬ РЭЖЫСЁРАМ

«Я чытала "Граф Монтэ Крыста", ела апельсіны, уся кніга была ў соку. Маё ўяўленне пра дзяцінства — менавіта гэтыя моманты», — Владзе Сяньковай ужо, напэўна, надакучыла распавядаць усім адну і тую ж гісторыю: адкуль такая незвычайная назва ў яе стужкі. Чаму «Граф у апельсінах»? Дзяўчына называе гэты фільм одай яе дзяцінству, але, здаецца, ён стаў одай і для ўсіх, хто яго паглядзеў.



Рэжысёр Влада Сянькова.

Сёлета «Граф у апельсінах» спрабаваў трапіць на кінафестываль «Лістапад», але стужку не прынялі. Нягледзячы на гэта, Влада Сянькова вырашыла працягнуць удзел у фестывальным руху — і фільм паказалі на кінафестывалі ў Маскве, а хутка ён паедзе ў Германію. Дарэчы, цікавым ён будзе не толькі маладым (хоць і дапаможа ім вярнуцца на некаторы час у дзяцінства), але і дарослым, бо тыя змогуць, як кажа рэжысёр, «усьпомніць перажыванні і ўсміхнуцца».

Влада не рэжысёр па адукацыі, але адчуваецца, што рэжысура — гэта яе: «Я заўсёды гэтым цікавілася, спрабавала нават паступіць ва ўніверсітэт кіно і тэлебачання ў Пецярбургу. Але ў 17 гадоў было страшна пайсці ў рэжысуру, і ў мяне здарылася каханне, таму вырашыла застацца ў Віцебску. Заставаўся адзін варыянт — кінашкола, куды я і пайшла».

Аб тым, што вучылася ў кінашколе, дзяўчына не шкадуе. Гэта быў яе першы крок, які яна лічыць самым важным для пачаткоўца. Будучым рэжысёрам Влада раіць глядзець кіно. Многа-многа: «Аналізаваць, пераглядаць, заўважаць, як паказваецца гісторыя. Памятаю, спачатку мне патрэбны былі модныя фішкі, а зараз я разумею, што гэта неабавязкова, — важна тое, як падаецца гісторыя. Можна зрабіць стужку стыльнай, але самае галоўнае, якім будзе месыдж».

Першую стужку Влады паказвалі ў кінатэатрах. Гледачоў было шмат, нават працягвалі тэрмін пракату. Але наўрад ці яны ведалі, што грошы на фільм рэжысёр шукала ў такіх самых гледачоў-спонсараў — праз краўдфандынгавую платформу: «Беларускіх пляцовак тады не было, таму я паспрабавала зрабіць гэта на расійскай. Наколькі я ведаю, мы былі першай стужкай, знятай з дапамогай краўдфандынгу. Цікава, што на расійскай платформе людзям спадабалася ідэя беларускай стужкі».

Такі спосаб утварэння бюджэту фільма не ўсе лічаць сур'ёзным: «Але я ведала, што збяру грошы. Кажуць, рэжысёрам трэба самім зарабляць на сваё кіно. А я разумею: калі рэжысёр пойдзе працаваць, каб знайсці грошы на фільм, то ён яго, хутчэй за ўсё, наогул не даробіць. Я выбіраю кіно як прафесію, а не як хобі».

### МОЛАДА-ЗЕЛЕНА?

«Граф у апельсінах» — фільм пра моладзь. Чаму? Бо Влада добра валодае тэмай — сама такая: «Трэба здымаць пра тое, што ты ведаеш. І гэтую тэму я ведаю лепш за ўсё. У мяне ёсць сцэнарый і пра людзей сталых, але я павінна крыху «пракачацца» і жыццёва, і ў рэжысуры. Маладосць — не адзінае, што мяне турбуе. Я кантактую з моладзю, працую з ёй, мне ёсць пра што распавесці».

Кіно атрымалася маладым ва ўсіх сэнсах — ад узросту здымачнай групы да тэмы. «Граф у апельсінах» стаў стужкай, якая аб'яднала Владу і яе каманду ў адну сям'ю: «Усе яны маладзейшыя за мяне. Канфлікты былі, але праз іх мы станавіліся толькі бліжэй. Адчуванне сеансу гіпнозу, які працягваўся паўгода здымак. Калі мы ўжо знялі фільм, было сумна развітвацца».

Хоць на «Лістапад» фільм В. Сяньковай не трапіў, яна не шкадуе. У рэшце рэшт, Масква скораная: «Я абсалютна адэкватна ацэньваю сваё кіно. Не лічу яго лепшым, але і горшым таксама. Я зразумела, што якасць мастацтва, узровень рэжысёра не вымяраецца каментарыямі на «Анлайнеры». Тое ж самае і з фестывалямі: узялі ці не — гэта не паказчык. Я думаю, мне пашанцавала, бо я — чалавек, які рэдка здаецца. Можа, гэта і дапамагло мне не пакласці фільм на паліцу, а ісці далей. Буду здымаць тое, што хачу».

Маладосць і бунтарства праяўляецца не толькі ў настроі Влады. Яна ведае, што кажа. Гэта словы чалавека, які ўсё ўзважыў і вырашыў для сябе. Дарэчы, фільмы таксама характар фарміруюць. Ужо не Влады, але яе гледачоў: «Цяжка сказаць, паўплывае маё кіно на кагосьці ці не. Але я дакладна ведаю, што яно спадабалася падлеткам. Калі цалкам пра кінематограф, то, канечне, фільмы ўплываюць на чалавека. У свой час я вельмі любіла "*Skins*", мяне гэты серыял сфарміраваў. Я не перабольшваю. Ён паўплываў і на "Графа", і на тое, што я збіраюся здымаць. Чаму наша моладзь павінна расці на брытанскіх серыялах? Патрэбны беларускія рэаліі, драйв, крыху схаваны дыдактызм».

Да таго ж кінагуст таксама трэба выхоўваць, як і характар. Влада раіць глядзець еўрапейскае кіно. Не галівудскае. Яно і зразумела — наўрад ці чарговая частка «Трансформераў» станоўча паўплывае на пачуццё прыгожага: «Ёсць, канечне, добрае і галівудскае кіно, той самы класічны «Тытанік». Мы выраслі на добрых савецкіх фільмах, але ёсць кіно і вакол нас — румынскае, карэйскае».

### БЕЗ АЎТАРЫТЭТАЎ

«Цяпер амаль не ходзяць у кінатэатры, і я разумею чаму. Напрыклад, калі ў Мінску ішла "Маладосць" Сарэнціна, у Гомелі — нешта кшталту "Хлопчыкі ў Вегасе—6". Я таксама б на такое кіно не хадзіла. А калі людзі ідуць глядзець на добрае кіно — яны растуць», — кажа Влада.

На аўтарскае кіно глядач ісці не хоча, а галівудскія камедыі, якім няма канца, надакучылі. В. Сянькова лічыць, што гледача трэба рыхтаваць: «Усе перажываюць, што наша кіно не акупляецца. Бо трэба выхоўваць гледача, працаваць з ім. Здымаць камерцыйнае кіно — гэта прасцей, але праблему не вырашае».

Адзіным прытулкам для незалежных стужак становяцца кінафестывалі. Гэта малады рэжысёр зразумела і па сітуацыі з «Графам у апельсінах»: «Цікава назіраць, як мяняюцца адносіны гледача да фільма, на постэры якога з'яўляецца лагатып якога-небудзь фестывалю. Перад Масквой да нашай стужкі грамадскасць па-рознаму ставілася. І калі мы прывезлі туды фільм, я нават сказала арганізатарам, што яны нас усынавілі, бо столькі ўсяго дрэннага сказана: блогеры не ўспрымалі, не хацелі глядзець, а пасля фестывалю сталі прасіць спасылку на фільм. Там мы зразумелі, што трэба здымаць далей».

На пытанне, у каго з беларускіх рэжысёраў хочацца павучыцца, Влада адказвае: «Ёсць і цяпер маладыя рэжысёры, якіх я з задавальненнем гляджу. Думаю, праз 10 гадоў у іх можна будзе вучыцца».

В. Сяньковай падабаюцца еўрапейскія рэжысёры, напрыклад, Сарэнціна: «Здзіўляе, як ён працуе з рытмам фільма. Яшчэ б павучылася ў Ксаўе Далана. Я і так вучуся, калі гляджу яго стужкі: ён вольны ў сваёй творчасці, і мяне гэта вабіць. Цікавіць не толькі тэма, але і яе ўвасабленне».

Калі айчынныя рэжысёры Владу не прываблiваюць, то месцаў для здымак, а тым больш тэм, хапае і ў нашай краіне. Але ж… «Несці беларускую рэальнасць у фільме цяжка — у нашых акцёраў нават дыкцыя расійская. Я гляджу беларускае, а бачу расійскае кіно. Мне цяжка да канца адчуць Беларусь».

### НОВАЕ ПАКАЛЕННЕ

Не так даўно вядомы рэжысёр Вудзі Ален зняў серыял. Гэта цікава, бо да гэтага шматсерыйныя фільмы творца не выпускаў. І Влада Сянькова мусіць ісці ў гэтым напрамку: «Я планую серыял! І збіраюся зрабіць яго вельмі добра. Сёння серыялы — не толькі мыльныя оперы. Я хачу, каб кожная серыя была асобным фільмам, гісторыяй».

Пытанне пра серыял застанецца адкрытым, пакуль на здымкі не знойдуцца грошы. Маладым рэжысёрам усё ж падтрымка патрэбная. Владу турбуе, што іншым разам моладзь лічаць недасведчанай і ставяцца да яе з недаверам. Хтосьці распрацоўвае праграмнае забеспячэнне, хтосьці піша кнігі, а хтосьці здымае кіно… Моладзь зараз таленавітая і вельмі актыўная, лічыць Влада Сянькова: «Яна выбірае тое, што ёй трэба».

Тое ж выбірае і Влада. Яна кажа: «У мяне многа "я хачу"». І гэтыя свае жаданні выконвае. Напрыклад, зараз здымае стужку «*ahaha*». Правакацыйную. Гэта аповед пра беларуса, украінку і расіяніна, якія жывуць у Будапешце і вымушаны разам наймаць адну кватэру: «Калі я выкладваю ў сацыяльныя сеткі фота са здымак, пішу *#outofpolitics*. Мая стужка ніяк не звязана з палітыкай. Я хачу зняць кіно пра тое, як маладыя людзі спрабуюць жыць "еўрапейскай марай"».

Акрамя таго, ужо амаль гатова да выхаду і роад-муві «*Elie/Elina*», — калі паспее, дашле на кінафестываль «Лістапад». Стужка, дарэчы, пра ліванца і беларуску, якія сустракаюцца ў аўтобусе і размаўляюць на розных мовах: «Павінна была быць рамантычная камедыя, але рамантыкай у маім жыцці на той момант і не пахла, таму атрымалася жыццёвае кіно на дзвюх мовах».

Падчас размовы з Владай узгадваецца, што ў 80-х Юрыс Падніекс зняў дакументальны фільм «Ці лёгка быць маладым?». Такое ж пытанне ўзнімае ў сваіх стужках і В. Сянькова. Творцы — тады і цяпер — кажуць гледачу, што быць маладым — справа нялёгкая. Нягледзячы на выпрабаванні, Влада Сянькова спыніцца не збіраецца — толькі ў будучыню!



Кадр з фільма «Граф у апельсінах».

Маргарыта ДЗЯХЦЯР

# Брэст «на хвалі»

## Чаго чакаць ад XXI Міжнароднага тэатральнага фестывалю «Белая вежа»?

Буйная тэатральная падзея чакае Брэст у пачатку восені — з 9 па 14 верасня пройдзе традыцыйны XXI Міжнародны тэатральны фестываль «Белая вежа», прысвечаны 25-годдзю ўтварэння Садружнасці Незалежных Дзяржаў. За два дзясяткі гадоў свайго існавання форум толькі ўдасканальваўся і ўзнімаў узровень майстэрства ўдзельнікаў, а значыць і праграмы, заўсёды наглядна дэманстраваў палітру сучаснага тэатральнага мастацтва, актуальнага для пэўнага моманту жыцця.

Галоўная (але не адзіная) пляцоўка для творчасці — Брэсцкі акадэмічны тэатр драмы. Удзельнікі — 27 калектываў з 17 краін. На адной сцэне сыдуцца акцёры і рэжысёры з Германіі і Францыі, Чэхіі, Румыніі і Малдовы, Кыргызстана, Азербайджана і Грузіі. Упершыню за гісторыю форуму ў Беларусь прыедуць госці з Туркменістана. Геаграфія незвычайна шырокая. Не абыдзецца без англійскіх, расійскіх, украінскіх, армянскіх, латвійскіх, польскіх і казахскіх прадстаўнікоў Мельпамены. Акрамя таго, пастаноўкі будуць ісці на васьмі мовах, а сцэн плануецца задзейнічаць пяць — у розных частках горада.

Чым вызначылася «Белая вежа» ў гэтым годзе? Улічваючы такую колькасць розных удзельнікаў, менавіта шырынёй жанраў. Тут вам і драмы з прытчамі, і рок-оперы з мюзікламі, і фантасмагорыі з гатычнымі трылерамі. Акрамя таго, чакаюцца арыгінальныя пастаноўкі ў стылі школьных квэстаў, тэатра формы, вулічных і харэаграфічных замалёвак. Месца знойдзецца не толькі для сучаснай драматургіі, але і для класікі, але з пункту гледжання маладых. Мяркуйце самі.



*«Паўлінка» Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы ў Брэсце (2015 год).*

Так, Львоўскі акадэмічны тэатр «Воскресіння» прадставіць чэхаўскую «Чайку». Яму будзе сугучны спектакль Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М.Горкага «Дванаццатая ноч» (дарэчы, гэта спектакль адкрыцця). А вось актуальным мастацтвам і незвычайнасцю здзівіць англійскі драматург і акцёр Піп Утан з лірычнай драмай для аднаго выканаўцы «Чаплін». Ад Маскоўскага тэатра «Школа сучаснай п'есы» таксама варта чакаць чагосьці нефарматнага. Калектыў адыграе пастаноўку на балконе пад назвай «Тут жыве Ніна» (п'еса Паліны Барадзіной). Монаспектакль, даволі папулярная, але складаная форма, не адзіны. Яшчэ адзін пакажа, напрыклад, Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра: у «Пачакай, сонца!» ролю выканае Галіна Дзягілева. Гэта таксама драма, але музычная. Беларускі дзяржаўны маладзёжны тэатр абраў для ўвасаблення італьянскі каларыт і п'есу Уга Бэці «Казіны востраў». А гаспадары форуму — трупа БАТД — парадуюць прэм'ерай «Дарагая Алена Сяргееўна» па творы Л. Разумоўскай. Лепшыя пастаноўкі атрымаюць узнагароды і падарункі ад аргкамітэта.

Арганізоўваюць XXI Міжнародны тэатральны фестываль «Белая вежа» Міністэрства культуры Беларусі сумесна з Брэсцкімі абласным і гарадскім выканкамамі, а таксама Брэсцкім акадэмічным тэатрам драмы.

# З французскім акцэнтам



*Сцэна са спектакля «Тры Жызэлі». Хутка ў Францыі.*

Пачуць спектакль на роднай мове Жана Поля Бельмандо альбо Люка Бесона? Лёгка! Унікальны тэатральны праект «Французскі экспрэс» ужо каторы год перамяшчаецца паміж Мінскам і Парыжам акурат у жніўні. Наступнага трэба чакаць 26-га а сёмай гадзіне вечара на сцэне Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі. Цэлы месяц у беларускай сталіцы працуюць, вучацца і натхняюцца члены французскай тэатральнай асацыяцыі «*Demain le Printemps*» (маладыя акцёры, дарэчы, не толькі з Францыі, а і (на гэты раз) з Канады і Чэхіі). Разам з удзельнікамі Міжнароднага грамадскага аб'яднання «Тэатра» (Беларусь) у РТБД яны трэніруюць… майстэрства вакалу і танцаў, акцёрскія навыкі, сцэнічны рухі і дыкцыю, нават акрабатыку. Сутнасць у тым, што «экспрэс» — гэта даволі інтэнсіўная вучэбная стажыроўка. У выніку акцёры прапануюць гледачам канцэрт, сабраны з розных нумароў — танцавальных, драматычных і вакальных, які назвалі па-нашаму — капуснікам. Зразумела, на французскай мове.

У мінулым годзе творчая каманда з Беларусі, Расіі, Францыі, Італіі і Бельгіі паказала спектакль "Тэатральны ваяж II". Ідэя французска-беларускага праекта ўзнікла ў рэжысёра Фабрыса Карэя, калі ён вучыўся ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Захапіўшыся беларускай тэатральнай школай, вырашыў, што яна заслугоўвае ўвагі. І разумення. Ужо 20 гадоў Фабрыс Карэй арганізоўвае пастаноўкі і майстар-класы з удзелам замежных акцёраў — ад Швейцарыі, Іспаніі да Туніса. Акрамя спектакляў, у рамках праекта сумесна з РТБД праводзяцца музычныя тэматычныя вечары (накшталт канцэрта, які хутка адбудзецца), турнэ і вучэбныя трэнінгі.

І яшчэ. Ужо даўно кажуць пра тое, што трупа РТБД праз год адправіцца ў Францыю з гастролямі са спектаклем Андрэя Курэйчыка «Тры Жызэлі» ў пастаноўцы Аляксандра Гарцуева. Выбар не выпадковы, бо гэта гісторыя французанкі. Толькі на наш лад.

Сумесны праект аб супрацоўніцтве Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі, Міжнароднага грамадскага аб'яднання «Тэатра» і французскай тэатральнай асацыяцыі «Demain le Printemps» у цэлым атрымаў назву «Тэатральная арка». Акрамя месячнай стажыроўкі, у яго ўваходзіць шырокая, ужо на 9 месяцаў, праграма, падчас якой будуць праходзіць розныя тэатральныя мерапрыемствы кшталту творчых вечароў, дзе будзе час і для нефармальных зносін і майстар-класаў. Выдатны прыклад абмену культурным вопытам паміж краінамі і ўзмацнення сяброўскіх адносін.

# Летні бум у тэатрах

**Летняе культурнае зацішша ў гэтым годзе амаль абмінула беларускіх гледачоў.**

Многія сталічныя тэатры трымалі дзверы адчыненымі на працягу ўсіх трох цёплых месяцаў — не чакаючы восені, цешылі збалансаванай, дарэчнай рэпертуарнай праграмай. У Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя М. Горкага спектаклі ўжо ў разгары і адпавядаюць па тэматыцы сезону адпачынкаў, пазітыўнаму настрою ў стылі «мора і сонца». Таму ідуць у асноўным камедыі і рамантычныя меладрамы: «Лэдзі на дзень», «Ідэальны муж», «Кола кахання», «Эсфір», «Ніначка». Словам, усё добра вядомае знаўцам жанру. На днях, ужо 20 жніўня, горкаўцы прадставяць новы 84-ы тэатральны сезон.

З 7 верасня пачне зноў здзіўляць Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі. У чэрвені тут ужо прагрымела прэм'ера — спектакль «Пелікан» па камернай п'есе шведскага драматурга Аўгуста Стрынберга ў незвычайным жанры «ода злачыннай жарсці». Чаго чакаць ад восеньскай праграмы? Ідэальнай выверанасці жанраў і разнастайнасці. Адкрые сезон глыбока нацыянальная, сучасная беларуская фолк-опера "Адвечная песня", потым — лёгкі і захапляльны спектакль "Адамавы жарты", сур'ёзная драма "Тры Жызэлі" і сімвалічная, сканцэнтраваная на сувязі мінулага і будучыні трагікамедыя "Дзед". Не абыдзецца першы месяц восені без гарачых гісторый кахання, добрых казак, трылераў на мяжы арт-хауса і ўтульных камедый.

Сучасны мастацкі тэатр у жніўні паказаў філасофскія і адначасова забаўныя аповеды пра ўзаемаадносіны мужчын і жанчын, камедыі, дзе высмейваюцца прагнасць, лянота і слабасць характару. Усе, здавалася б, сур'ёзныя тэмы пададзены займальна і з гумарам. Зараз папулярнасцю карыстаецца нязмушаны і вытанчаны «Фігара.tut» па п'есе П'ера дэ Бамаршэ.

Пра «Вяселле Фігара» будуць гаварыць і на адкрыцці сезона ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Рэспублікі Беларусь 4 верасня. Інтрыгуе, што склад трупы — беларуска-расійскі. Так што гэта — сумесны творчы праект.



*Спектакль «Любоў людзей» восенню зноў на сцэне.*

Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы з верасня парадуе класічнымі пастаноўкамі: «Чорная панна Нясвіжа», «Паўлінка»,«Вечар»,«Чайка», «Хам», «Пінская шляхта». Будуць і новыя: «Дзве душы» і «Каханне як мілітарызм».

Тэатральны сезон у Беларускім дзяржаўным маладзёжным тэатры завяршыўся ў канцы ліпеня прэм'ерай спектакля «Сямейны ўік-энд», але толькі ў сярэдзіне верасня можна будзе атрымаць асалоду ад новай праграмы. Сачыце за афішамі!

**Падрыхтавала Марыя ВОЙЦІК**

# ЗЯЛЁНАЕ ЛЕТА флейтавых кадэнцый

**Мроя прынесла згадкі… Мроя прынесла водгукі музычнага лета, ледзь улоўныя лініі меладычнага жніўня…**
**Да бязважкай мроі прыладзіўся ветрык — даўні спадарожнік, дарадца і верны каханак… На яго крылах лёгкім пер'ем зачапіўся музычны абрыс гордага касцюшкаўскага паланэза. Зачаравана, няўтомна б'ецца адметны рытм.**
**Ветрык, мроя, паланэз, маскі, постаці — музычныя праменады пражытых жыццяў, летнія вечары сустрэч і спатканняў пад маўклівым наглядам стаража жытных дубоў.**


Фота з сайта tio.by.
*Палац Рдултоўскіх (аграгарадок Сноў Нясвіжскага раёна).*

### «Край наш — дзівосны…

Спякота. Духата. Жнівень. Прахалода хаваецца ў зацішных улоннях старых паркаў-садоў. Іх няспешнасць і разважлівасць, памножаныя на цішу і веліч, гайдаюцца мінулымі стагоддзямі. Малыя падзеі паглынаюцца вялікімі, асядаюць пацінай на сценах старых альтанак, разбураных палацаў. Іерогліфы алей зацярушаны стрыжаным самшытам з каляровым пяском, перамешаным з тоўчанай цэглай і вуглем.

Стары парк спіць. Веліч стуліла веі. Нервуецца густая лістота дрэў. Іх шапаценне не дае апасці ўсхваляванасці даўніх здарэнняў — надзейная схова ўзнятых да аблокаў прызнанняў, таемных змоў, знакаў.

Лета прыпыняецца тут. Белыя аблокі завісаюць над елкамі, ліпамі, веймутавай сасной, чорнай вольхай, вастралістым клёнам, чарэшчатым дубам. Жнівеньскія дажджы палошчуцца ў неглыбокіх сажалках, абмываюць масты над выспамі, прыбіваюць пыл жоўтых сцежак…

### … дзівосны прыстанак загадак…

Тут некалі гучала музыка. Лёгкая, прыгожая. Аглушальная, дасціпная. Узнёслая, пяшчотная. Маўчыць. Стагоддзе, другое, трэцяе… Скрозь нябачныя струмені фантанаў і мармуровыя лініі паркавых скульптур яна здзіўлена пазірае з задуменнай сваёй вышыні на новае жыццё-забыццё. Прывязаная да гэтага месца некалі сыгранымі канцэртамі, сімфоніямі, дывертысментамі, гайдаючыся над каляровым дыванам даўнейшай разнастайнасці, яна трымаецца прыцягненнем незабыўнага даўнейшага замілавання.

Яна памятае сваё панаванне, як стары парк сваё юнацтва. Памятае тых апантаных прыхільнікаў прыгожага і «вытанчанай гульні пачуццяў», чые «ідэальныя густы спрыялі маральнасці». Некалі тут панавала ўрачыстасць, чый каралеўскі гонар услаўлялі аркестры, узмоцненыя 20 габаістамі і чатырма меднымі літаўрамі.

Месца, створанае для музыкі і раскошы.

### … загадак і цудаў…

Час мяняе аблічча. Рэнесансныя сады змяніліся паркамі, а барочная пампезнасць прадыктавала іншы тэмпарытм жыцця.

«*Alba Longa*» Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі яшчэ поўны ідэямі італьянскага Рэнесанса. Тут некалі займелі прытулак экзатычныя жывёлы з Афрыкі, Італіі, Палесціны — першы беларускі звярынец. Прыгажуны леапарды прыміналі нясвіжскую траву дужымі мяккімі лапамі, куляліся малпы, рознакаляровыя папугаі бянтэжылі тутэйшае птушынае насельніцтва стракатым апярэннем, вальеры засяляліся ланямі, сернамі, аленямі, ваўкамі, а дзе-нідзе — насарогамі… Альбянскі парк нагадвае зялёны тэатр, на газонах якога разыгрываюцца п'есы, напісаныя матуляй экспрэсіўнага сына Францішкай Уршуляй Радзівіл.

Паўсюль раскоша і разняволенасць. Аздоба, інтымнасць. Экзотыка раслін (цуга канадская, кіпарыс балотны, дуб белы), ліпавыя шпалеры, вежа з гадзіннікам, арачныя мосцікі, лабірынты, скульптуры, амфітэатры. Новае асэнсаванне рэчаіснасці — па законах прыгажосці: радзівілаўскі Нясвіж, сапегаўскія Ружаны, паркі-сады Тызенгаўза ў Гродне, Браніцкага — у Беластоку, Агінскага — у Слоніме…

### …ці то так Бог пажадаў, каб усё ў ім на волі і вырастала…

А музыка? Пасля эпохі сармацкага грамадства музыцы захацелася іншага статусу: быць самой сабой, а не прыслужніцай на трапезах і паненкай у песнях і танцах. Музыка з кожнай наступнай эпохай, усё ярчэй адчуваючы сваю ўплывовасць і прывабнасць, пераходзіла з двароў манархаў у двары арыстакратаў. Пераймалася-пашыралася-падарожнічала. На лета «перааджала» ў паркі-сады, песцячы сябе ў новых акустычных умовах. Захапленне ёю — неад'емная частка этыкету.

Даўно вядома, калі кароль захапляецца музыкай — уся арыстакратыя будзе «амузычана». Каралева Лізавета, утрымліваючы прыдворнага кампазітара У. Бёрда, спрыяла не толькі стварэнню мноства песень і санетаў, але і з'яўленню школы англійскага мадрыгала. Прускі кароль-віяланчэліст Фрыдэрык Вільям II утрымліваў пры двары Луіджы Бакерыні дзеля таго, каб той забяспечваў яго новым віяланчэльным і ансамблевым рэпертуарам — 12 новых абавязковых твораў штогод. У выніку Л. Бакерыні стварае 90 струнных квартэтаў, 125 струнных квінтэтаў, шэраг віяланчэльных канцэртаў…

Прэтэндэнт на каралеўскі трон Міхал Казімір Агінскі стварае забаўляльны прыдворны цуд з музыкай — музычны тэатр.

Тэатр на алеях паркаў. Тэатр (прывітанне Гендэлю!) на вадзе.

Спадае спякота, і па канале сярод пінскіх балот плывуць лодкі з акцёрамі, баржа з маленькім аркестрам. У партэры тэатра — месца для караля Станіслава Аўгуста. Найбліжэйшае асяроддзе. Духмяная кава ў белых філіжанках. Новы цуд на сцэне — прэм'ера оперы з балетнымі сцэнамі. Сам Францішак Шлянцоўскі ў галоўнай ролі. Побач Апалонія, Анастазія, Будзевічаўна, Юстына, сяляначка Кася…

Уздоўж паркавых алей — альтанка Геркулеса, англійская гасціная, зала багінь. Вас вітаюць німфы, багіні, бог пастухоў Пан, птушкалоўка, якая падорыць вам птушку, каб вы мелі задавальненне адпусціць яе на волю. На «венецыянскім кірмашы» кожная дванаццатая гандлярка прапануе пазнаёміцца з музычнымі інструментамі, на якіх сама ж іграе, выгадна выяўляючы іх тэмбральныя асаблівасці. Калі ж пашанцуе — восем запрэжаных быкоў крануць з месца рухомы тэатр на шасці колах і можна стаць сведкам яшчэ аднаго тэатральнага цуду.

Эпоха забаў, асамблей, маскарадаў — XVIII стагоддзе! Кесонныя столі залаў аздоблены выявамі музычных інструментаў. Капэла на галерэі ратушы прывітальнай музыкай сустракае пачэсных гасцей. Аркестры і ансамблі на любы густ — маленькія і вялікія. Аркестры і ансамблі для інтэр'ера і экстэр'еру. Яркае, стракатае, бліскучае гучанне: нечаканае спалучэнне тэмбраў горскай валынкі, паштовых ражкоў, жалейкі, валторны, трубы, габояў, флейт, кларнетаў…

Дзе-нідзе (а ў радзівілаўскім Слуцку абавязкова!) камерныя аркестры і ансамблі былі размеркаваны па розных частках саду і стваралі нечуваную «стэрэафанію», выклікаючы захапленне караля і ўсіх прысутных.


*Замак Кенілворс і рэканструяваны сад.*

Канцэрт прыдворнага целяханскага аркестра, які складаўся з клавікордаў, скрыпкі, венгерскага барабана, альта і трамбона, кароль Станіслаў Аўгуст праслухаў пад разгалістымі экзатычнымі дрэвамі парку, падзеленага на чатыры сектары адпаведна чатыром часткам свету.

Парк як тэатральная сцэна, жывапісная галерэя, паэтычны мастацкі твор *nonfinite*…

### …і вырастала і гінула…

Ружаны, Целяханы, смаргонскае Залессе, брэсцкія Скокі, столінскія «Манькавічы»… Скарб даўно ператварыўся ў метазнак. Мастацкі вобраз трансліруе сэнс і жадае быць пачутым. Разманстачаны час толькі пашырае зону адказнасці. Жывая рэпрэзентатыўная экспрэсія сведчыць аб няскончаным сваім жыцці, аб здольнасці адрадзіцца і весці дыялог. Пра сваё. Па-наску.

Сёння паркі-сады маўчаць. Урачыстасць змарнела. Гукі станчэлі. Пахаваліся ў густой лістоце. У чароўным чаканні спыніліся паланэзы.

Багацце. Раскоша. Веліч. Магутнасць. Зніклі. У 1874 годзе. Не засталося і следу ад гэтай некалі жыццярадаснай, пышнай, па-еўрапейску ўладкаванай і дагледжанай прасторы. «Пасля васьмідзесяці гадоў царскага панавання нават руіны ўжо не сведчылі пра месцазнаходжанне «Палескіх Афінаў» (**А. Ц.**).

### …ці чараўнічай воляй нечай усе занядбана…»

Адметнасцю XIX стагоддзя стала непісьменнасць. Непісьменнасць пераважнай большасці беларусаў. Інакш бы не пачынала Алаіза Пашкевіч сваю дзейнасць з укладання «Лемантара». Беларуская мова не вывучалася ні ў адной з 25 сярэдніх навучальных устаноў. Беларускай мовай валодалі толькі дзевяць працэнтаў настаўнікаў.

У 2009 годзе музыка старадаўніх садоў і паркаў раптам, на адно імгненне вечара, засвяцілася канцэртам ансамбля салістаў «Класік-Авангард» на сцэне Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Партытуры, адшуканыя Святленай Немагай і апрацаваныя мастацкім кіраўніком калектыву Уладзімірам Байдавым, загучалі светлым мажорам забытай урачыстасці, залуналі незавершанымі флейтавымі кадэнцыямі і рашучымі акордамі ўрачыстых фіналаў. Ажылі арпеджыя масткоў і лёгкія пасажы сцежак у Малой зале імя Р. Шырмы.

У. Байдаў — вядомы руплівец беларускай музыкі. Асабліва той — рэдкай, старадаўняй, і не менш рэдкай сучаснай (!), якая пачуваецца госцяй на сцэне. У. Байдаў — руплівец тых партытур, якія не знойдзеш на паліцах філарманічнай бібліятэкі і, расклаўшы па пультах аркестрантаў адпаліраваныя экзэмпляры партый, не зайграеш як канцэртную версію «з ліста». У. Байдаў — алхімік партытуры. Суразмоўца. Крытык. Даглядчык. Ён ведае, што закласці сад не лягчэй, чым напісаць сімфонію: асобныя дрэвы павінны быць пасаджаны адпаведна выбранаму месцу і супадаць з роўнай паверхняй смарагдавага газона. Берагавая частка павінна быць цалкам адкрыта, каб супасці з кульмінацыяй палацавай дамінанты. Закласці сад, чакаць яго росквіту, як і выканання новай сімфоніі, можна цэлае стагоддзе.

*…не знаю…* (М. Гусоўскі з «Песні пра Зубра»)

***

**…Рамантычнае беларускае асяроддзе. Лёгка рыфмуецца з высокім бязладдзем. З летуценнай, нічым не абцяжаранай паняй Мрояй…**

*На сваёй струне*



**Ларыса СІМАКОВІЧ,**
**кампазітар**

# Закаханы ў жывапіс і кіно —

## так заўсёды казалі пра мастака Вячаслава Кубарава калегі па цэху

Эстэтыка кіно і выяўленчага мастацтва для Вячаслава Кубарава, мастака тэатра і кіно, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, заўсёды заставалася пануючай у жыцці. Займацца рамантычным пейзажным жывапісам альбо прысвяціць сябе кінаіндустрыі? Творцу ўдавалася сумяшчаць кірункі, і пасля сябе ён пакінуў фантастычна разнастайную калекцыю твораў. Сёлета Вячаславу Кубараву споўнілася б 85 гадоў. Дата важная яшчэ і для шматлікіх прыхільнікаў яго творчасці, большасць з якіх асабіста ведалі мастака як чалавека «на сваім месцы». З нагоды юбілею ў Мастацкай галерэі Міхаіла Савіцкага да канца жніўня будуць дэманстравацца самыя розныя творы жывапісу і графікі аўтара, аб'яднаныя ў выстаўку «Закаханы ў жывапіс і кіно».


В. Кубараў. «Сядзіба», 1958 г.

Назва экспазіцыі дакладна характарызуе асобу Вячаслава Кубарава. Толькі сапраўды ўлюбёны ў справу чалавек можа так далікатна, але старанна дакопваца да сутнасці розных працэсаў, якія адбываюцца ў прыродзе, соцыуме. Разбіраючы творы аўтара, адчуваеш іх моцную энергетыку. Часам здаецца, што гэта дакументальны фільм, складзены з асобных жывапісных эцюдаў, насычаных цёплымі, гарманічнымі адценнямі. На выстаўцы не сустрэнеш шэрых штодзённых сюжэтаў — хутчэй за ўсё аўтара не прываблівае меланхалічны настрой. Творы, стракатыя і дынамічныя, адлюстроўваюць, нібы люстра, яго прынцыпы, жыццёвыя ўстаноўкі і мастацкія перавагі.

«Меню» выстаўкі, між іншым, не проста разнастайнае — хутчэй унікальнае. Акрамя шматлікіх сюжэтаў на тэму прыроды і яе прыгажосці, дэманструюцца эскізы да розных мастацкіх фільмаў. Варта нагадаць, што Вячаслаў Кубараў у якасці мастака-пастаноўшчыка ўдзельнічаў у стварэнні трыццаці пяці мастацкіх кінастужак. Сярод іх такія вядомыя фільмы, як «Альпійская балада» (рэжысёр Барыс Сцяпанаў, 1965 г.), «Паланэз Агінскага» (рэжысёр Леў Голуб, 1971 г.), «Пайсці і не вярнуцца» (рэжысёр Мікалай Князеў, 1992 г.) ды іншыя. Эскізы выклікаюць цікавасць, папершае, маштабамі, па-другое, сюжэтамі. Нават калі не бачыў фільм, узнікае жаданне альбо паглядзець яго ад пачатку да канца, альбо пафантазіраваць і прыдумаць, зыходзячы з прадстаўленага твора, сюжэтную лінію самому.

Аўтарскі почырк мастака нельга назваць пазнавальным. Магчыма, менавіта ў непаўторнасці, арыгінальнасці і тоіцца фішка творчасці Вячаслава Рыгоравіча. Кожны эцюд, з аднаго боку, класічны, вытрыманы, а з другога — імгненны ва ўспрыманні. Што тычыцца эскізаў, то тут прастора для роздуму бязмежная: можна па храналогіі прааналізаваць змяненне мастацкага стылю аўтара альбо прасачыць вобраз асобных герояў, напрыклад, жанчын, у розных фільмах. Тут таксама не знойдзеш падабенстваў! Да кожнага жаночага вобраза мастак падбірае індывідуальныя рысы: сілуэт, грацыю, колер валасоў...

Вячаслаў Кубараў нарадзіўся ў Расіі, на кінастудыю «Беларусьфільм» прыехаў працаваць па размеркаванні. На беларускай зямлі знайшоў свой творчы лёс, адчуўшы асаблівае натхненне. Экспазіцыя «Закаханы ў жывапіс і кіно» — выдатны шанс успомніць аўтара і адчуць яго прысутнасць, няхай не фізічную, а духоўную, але ўсё роўна — вечную.

**Вікторыя АСКЕРА**


В. Кубараў. «У зале», 1978 г. Эскіз да мастацкага фільма «Дзяржаўная мяжа».


В. Кубараў. «Госці», 1973 г. Эскіз да мастацкага фільма «Шчаслівы чалавек».

## Культурны ракурс



Адным з сімвалаў і гонарам нашага горада з'яўляецца Аршанскі езуіцкі калегіум — адноўлены будынак XVII ст. Тут атрымалі адукацыю самыя знакамітыя людзі свайго часу. Сярод іх — Пётр Завадоўскі, першы міністр народнай асветы Расіі, святар Францішак Дзяржынскі, адзін з заснавальнікаў каталіцкай адукацыйнай сістэмы ў ЗША.

Калісьці калегіум быў цэнтрам не толькі рэлігійнага, але і культурнага, палітычнага жыцця грамадства. Яго будынак, пабудаваны яшчэ ў 1604 годзе па асабістым распараджэнні канцлера ВКЛ Льва Сапегі, спачатку выконваў функцыю залы для правядзення мясцовых сеймаў. Аднак у 1610 годзе кароль польскі Жыгімонт III ахвяраваў прыход езуітам — для стварэння першай навучальнай установы.

У 1820 годзе Аршанскі калегіум закрылі па асабістым распараджэнні імператара Аляксандра I у сувязі з забаронай на дзейнасць ордэна. Будынак з усімі прылеглымі пабудовамі перадалі ваеннаму ведамству пад гарадскую турму. У пачатку XXI ст. было вырашана аднавіць помнік архітэктуры. Рэстаўрацыя будынка завяршылася ў 2008 годзе. У 2014-м пры калегіуме адкрыліся мастацкая галерэя, выставачная зала і дзіцячая бібліятэка імя У. С. Караткевіча. У памяшканні былой бурсы размясціўся мясцовы Дом рамёстваў. Над калегіумам надбудавана 26-метровая вежа. На ёй усталяваны чатыры вежавыя гадзіннікі, якія кожную гадзіну іграюць розныя мелодыі. Спецыялісты ААТ «Белрэстаўрацыя» змадэлявалі, вырабілі і ўстанавілі на франтонах і вежы калегіума восем дэкаратыўных ваз, якія падкрэсліваюць барочную архітэктуру будынка.

**Ларыса КАВАЛЬ**

*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас* ***lim_new@mail.ru*** *з пазнакай* ***«Культурны ракурс»*** *— лепшыя будуць апублікаваныя на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Галоўны рэдактар**
**Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК**



**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.main.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 18.08.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1633.

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 3020

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686